ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 12 (2362) 24 сакавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 30 рублёў.

## АБ ЗАГАДЦЫ ДУШЫ, або ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА ВАКОЛ "НЕВЯДОМАГА ДОМА"

*"...Без веры ў сябе на працягу стагоддзяў беларускі народ не выстаяў бы і не вырагаваў бы сябе ніколі".*

**Фёдар ДАСТАЕЎСКІ.**

Калі я чую аб загадцы рускай душы, кожны раз узнікае пытанне: а што ўяўляе сабой душа беларуская? Сёння дык і наогул многія прызвычаіліся гэтыя дзве душы атаясамліваць. Гэта і не дзіўна, бо адпаведна гістарычнаму доследу, навязванне камуністычнай ідэалогіі заўсёды ішло ў пары са змаганнем супраць дзяржаўнасці і ўвогуле супраць беларускасці. Па адмаўленню ад свайго ўласнага -- культуры, мовы, гісторыі -- Беларусь даўно ўжо вартая кнігі рэкордаў Гінеса. Ці не ёсць гэта самае загадкавае ў душы беларуса? Адна з канкрэтных праяў нацыянальнага нігілізму -- стаўленне да Акта 25 сакавіка.

Удавацца ў глыб тагачасных падзей не ёсць мэта даных нататкаў. Нагадаем толькі, што дзень 25 сакавіка на доўгія гады быў выкраслены з гісторыі Беларусі, і толькі летась дзякуючы намаганням грамадскасці ўрачыста і ўсенародна ўпершыню быў адзначаны ва ўсёй краіне.

(Працяг на 3-й стар.).



"Невядомы дом" па вуліцы Валадарскага, 9 (былая вуліца Захараўская, 43).

ПАСЛЯ ПЕРСАНАЛЬНАЙ ВЫСТАВЫ

Паўла МАСЛЕНІКАВА

## ВЕРУ Ў ПРАЎДЗІВАЕ МАСТАЦТВА



Павел Масленікаў, вядомы беларускі мастак тэатра і жывапісец, сустрэўся са мной у сваёй невялікай майстэрні. Толькі што сюды прывезлі карціны з выставы, прысвечанай яго 80-годдзю. Выставу знялі, а ў Палац мастацтва, дзе яна экспанавалася, сабралі на паказ пародзістых кошак. Вядома, установы мастацтва вымушаны праводзіць камерцыйныя мерапрыемствы. Але мастакам ад гэтага не лягчэй: Павел Васільевіч толькі на афармленне сваёй экспазіцыі патрацїў 1,5 мільёна рублёў. Добра, як ён кажа, што выстава была юбілейная і таму не спатрэбілася плаціць за арэнду памяшкання (а каштуе гэта 2 мільёны рублёў). Такія выдаткі па кішэні толькі мастаку, чые карціны добра купляюць. Але ж хто іх сёння набывае? Аматар мастацтва не можа дазволіць сабе купіць карціну за яе сапраўдную цану. Іншаземцы, для якіх, як правіла, кошт твора не мае асаблівага значэння, час ад часу купляюць іх. Але і яны не зацікаўлены плаціць на мытні за вываз грошы, роўныя ледзь не цане самой карціны. Застаецца адзіны патэнцыяльны пакупнік -- айчынныя прадпрымальнікі. Яны купляюць -- хто для дома, хто для офіса. У Паўла Масленікава купілі пейзаж для галерэі, якую збіраецца стварыць адзін мінскі бізнесмен.

Павел Масленікаў -- народны мастак. За яго плячыма гісторыя. Мала знойдзецца на Беларусі людзей, якія ведаюць пра наша мастацтва столькі, колькі ведае ён. Павел Масленікаў -- сведка 20-х, 30-х гадоў. Ён сам фатаграфаваў на мастацкіх выставах, наймаў фатографаў, збіраў матэрыял па зярнятках. Дзякуючы гэтаму змог напісаць сваю вядомую мастацтвазнаўчую працу "Беларускі савецкі тэматычны жывапіс". Менавіта Паўлу Масленікаву належыць раздзел "Жывапіс" і ў "Гісторыі беларускага мастацтва", які ахоплівае перыяд з 1917 па 1985 год. Цяпер жа мастак у роспачы, бо бачыць, што з 1985-га года ніхто ўжо не займаецца сур'ёзна гісторыяй беларускага мастацтва. Няма грошай нават, каб рабіць фатаграфіі, слайды, каталогі. Мастаку прапанавалі скласці каталог сваёй выставы. Яму б каштавала гэта 5 мільёнаў рублёў. Адмовіўся. Дарэчы, Павел Васільевіч пісаў для "Гісторыі беларускага мастацтва", не атрымліваючы за сваю працу ні капейкі. Ён быў членам вучонага савета аддзялення грамадскіх навук Акадэміі навук БССР. І працаваў над раздзелам кнігі на грамадскіх пачатках. Ці знойдзе сёння Акадэмія навук яшчэ такога аўтара?

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

Аляксандр САСНОЎ:

## "ФІГАВЫ ЛІСТОК ДЭМАКРАТЫІ ЗНІК"

**Аляксандр Сасноў -- народны дэпутат Беларусі, старшыня Камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва Вярхоўнага Савета. Сёння ён дзеліцца з нашымі чытачамі сваімі думкамі наконт таго няпростага становішча, што склалася ў вышэйшым органе ўлады Беларусі, калі разам з моцным эканамічным крызісам усё часцей заяўляе пра сябе і крызіс палітычны.**

*-- Аляксандр Віктаравіч, ці не здаецца вам, што наш Вярхоўны Савет апошнім часам якасна змяніўся?*

-- Адчування, што ён якасна змяніўся, у мяне няма. Ён застаўся такім жа, якім і быў. А вось што тычыцца яго, так сказаць, "паправення" ці, тэрміналагічна больш дакладна, -- "палявення", то гэта адбылося. Тыя, хто пасля 91-га года вымушаны былі памоўчваць, цяпер крыху асмялелі і нават пайшлі ў атаку. Фігавы лісток дэмакратыі знік, і сёння можна рэчы называць сваімі імёнамі.

*-- Такое становішча, калі ніхто ўжо не хаваецца, няхай сабе і пад фігавым лістком, гэта добра ці дрэнна?*

-- З пункту гледжання дэмакратыі, добра. Па крайняй меры цяпер нельга будзе абвінаваціць яе ў эканамічным крызісе, праліках і г.д. Гэта можна зрабіць толькі па неразуменню ці з-за таго спосабу мыслення, які пакуль пераважае сярод нашых грамадзян.

*-- Але ці не атрымаецца так, што тыя, хто сёння пры ўладзе, пры ўсіх правах, цяпер нічога і не баяцца, а меркаванні апапентаў імі ўсё часцей проста не бяруцца ў разлік?*

-- Яны і раней нічога не баяліся і ўпотай марылі пра вяртанне старой сістэмы, пра камуністычнае размеркаванне. На той момант галоўным для іх было рабіць вясёлую міну пры дрэннай гульні. Але цяпер адказваць прыйдзецца менавіта парламенцкай большасці, і нельга сказаць, што яны зусім нічога не баяцца, бо гэты Вярхоўны Савет не вечны, рана ці позна ён будзе перавыбраны. Многім жа з дэпутатаў хацелася б прымаць удзел у яго рабоце і далей, таму што дэпутацкі мандат шмат чаго дазваляе. А ўрад заахвочвае такі падыход: калі дэпутат нешта просіць, яму не адмаўляюць, але і даюць зразумець: мы пайшлі табе насустрач, таму наступны раз, калі будзеш галасаваць, павінен сплаціць доўг, зрабіць выбар на нашу карысць. І тым не менш, прэм'ер Кебіч усё ж такі Вярхоўнага Савета апасаецца, нельга сказаць, што ён у яго цалкам у кішэні. Вярхоўны Савет крайне непрадказальны. Сённяшняя большасць у ім можа разбегчыся ў любы момант, і тады ўрад рызыкуе добра шлёпнуцца ў лужыну. Вось і даводзіцца членам урада заігрываць з дэпутатамі.

*-- А ці лічацца дэпутаты з меркаваннем сваіх выбаршчыкаў? Часам здаецца, што для некаторых з іх выбаршчыкі ўжо проста не існуюць.*

-- Давайце ўспомнім падзеі красавіка 91-га года. Тады народныя выбраннікі баяліся, і моцна баяліся, людзей на плошчы.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЗНОЎ ГІСТАРЫЧНАЯ ПАДЗЕЯ*

### ПРЫНЯТА КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**15 сакавіка 1994 года на дзённым пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. За яе прагаласавалі 236 народных дэпутатаў. Парламент вырашыў гэты дзень зрабіць нацыянальным святам. Дэпутаты ўсталі і воплескамі віталі завяршэнне нялёгкай працы над Асноўным Законам дзяржавы.**

**Ацэнка новай Канстытуцыі неадназначная -- ад катэгарычнага ўхвалення да такога ж катэгарычнага непрыняцця.**

**-- Гэта Канстытуцыя прынята толькі дзеля ўвядзення прэзідэнцкай сістэмы, спраецыравана пад адну канкрэтную асобу -- Вячаслава Кебіча і пад адну палітычную акцыю -- выбары прэзідэнта, -- заявіў лідэр апазіцыі Зянон Пазьняк. -- Па-за гэтай акцыяй Канстытуцыя нармальна працаваць не будзе, як і прэзідэнцкая форма кіравання, бо ў ёй не збалансаваныя адносіны паміж мясцовымі ўладамі і Вярхоўным Саветам, паміж прэзідэнтам і парламентам, паміж выканаўчай і судовай уладамі.**

**Канстытуцыя зроблена пад таталітарны рэжым, пад канкрэтную фігуру прэм'ера, у якога зараз фактычна ў руках Вярхоўны Савет.**

**Дыяметральна супрацьлеглай думкі дэпутат Мікалай Скарынін: "Тым, хто гаворыць, што Канстытуцыя была "падведзена" пад аднаго чалавека, я адкажу, што гэта проста смешна. Якім чынам яна магла "падводзіцца" за два з паловай гады абмеркавання! Тым больш сёння, я лічу, ніхто не можа адназначна сказаць, хто будзе першым прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь".**

*"Рэспубліка жыве ў доўг. Больш за 500 мільярдаў расійскіх рублёў мы павінны Расіі. "Выпушчаны" на аграрныя патрэбы нарсовы трыльён, размеркаваны паміж гаспадаркамі па так званаму "рыначнаму шляху" -- у залежнасці ад колькасці гектараў, яшчэ больш падкасіў беларускі рубель. Таму здзіўляцца скачку інфляцыі, які адбудзецца ў сакавіку, не даводзіцца. Калі ў лютым рост інфляцыі склаў 40 працэнтаў, то ў сакавіку, па сціплых падліках, больш за 50 працэнтаў. Вялікім будзе і падзенне курсу беларускага рубля ў адносінах да долара і расійскага рубля. Урад спрабуе знайсці выйсце ва ўстанаўленні жорсткага абменнага курсу, як гэта было зроблена на Украіне. Я лічу, выйсце ў адным: знайсці крыніцы знешняга фінансавання дэфіцыту плацежнага балансу, гэта значыць прасіць крэдыт у той жа Расіі, магчыма на Захадзе. Што называецца, пажыць у крэдыт. І другое -- не жартаваць з крэдытнай эмісіяй".*

*(З заявы на прэс-канферэнцыі С. БАГДАНКЕВІЧА, старшыні Нацыянальнага банка Беларусі).*

*ПАГАДНЕННЕ*

### БУДЗЕМ З ГАЗАМ

**Урадавая дэлегацыя Беларусі на чале з віцэ-прэм'ерам Станіславам Брылем падпісала ў Маскве дагавор з аб'яднаннем "Газпрам" аб пастаўках газу ў Беларусь. Бакі дамовіліся, што цана на газ з 1 студзеня бягучага года для нашай рэспублікі зніжана з 80 да 50 долараў за тысячу кубаметраў. Розніца, што "набегла" за два з палавінай месяцы гэтага года, ужо залічана "Газпрамам" у кошт пагашэння агульнай запазычанасці Беларусі за гэты від паліва.**

**Дасягнута згода аб высокіх гарантыях паставак газу з Расіі ў Беларусь на ўвесь 1994 год. Умовай такой гарантыі сталі адмова расійскага боку ад спагнання з Беларусі пені ў размеры 46 мільярдаў рублёў і абавязацельства беларускага -- пабудаваць жылы масіў у горадзе газавікоў Надыме.**

*АЎТАРЫТЭТНАЕ ІМЯ ЎРАЧА*

**Пра таленавітага ўрача-акуліста з Брэста, кандыдата медыцынскіх навук Віктара Санюкевіча ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў краінах блізкага і далёкага замежжа. У арсенале ўрача -- больш за дваццаць аптычных апаратаў уласнага вынаходства, якія дазваляюць карэкціраваць зрок у дзяцей і падлеткаў, спыняць прагрэсіруючую блізарукасць, выпраўляць касавокасць.**

**За шэсць гадзін праз кабінеты прыватнай лячэбніцы прайшло больш за сем тысяч хворых. І большасць пазбавіліся сваёй хваробы.**

**НА ЗДЫМКУ: В. САНЮКЕВІЧ са сваімі пацыентамі.**



*ВІНШУЕМ!*

### ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

**Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь за значны ўклад у развіццё, захаванне і прапаганду беларускага музычнага фальклору майстру па рэстаўрацыі і вырабу нацыянальных музычных інструментаў Беларускага універсітэта культуры Пузыні Уладзіміру Якаўлевічу прысвоена ганаровае званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь".**

*"БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-93"*



**15 сакавіка ў Мінску адкрылася выстава "Беларуская кніга-93", арганізаваная Міністэрствам інфармацыі і Нацыянальнай кніжнай палатай рэспублікі. Экспазіцыя змясціла 619 кніг, выдадзеных 10 дзяржаўнымі выдавецтвамі, і 211 кніг дваццаць аднаго недзяржаўнага выдавецтва.**

**У 1993 годзе не толькі не знізілася колькасць выпускаемай літаратуры, а, наадварот, у параўнанні з 1992 годам узрасла. Летась сярэдні тыраж аднаго выдання склаў 34 тысячы экземпляраў, а ўсяго было выдадзена 2 тысячы 926 кніг агульным тыражом больш за 98 мільёнаў экземпляраў.**

**НА ЗДЫМКУ: на выставе "Беларуская кніга-93".**

*РАСПРАЦАВАНА ВУЧОНЫМІ*

### СУПРАЦЬ РАДЫЯЦЫІ

**Лякарства, ад якога не адмовіцца любы, нават самы капрызны малы, распрацавалі спецыялісты навукова-даследчага цэнтра "Белплодагародніна". У любімыя дзятвой фруктовыя і гароднінныя пюрэ і сокі яны дадалі муку і крупу з аўса. І вынікі перавысілі ўсе чаканні. Навінка дзіцячага харчавання не толькі смачная, але і па-сапраўднаму начынена здароўем. Аўсяныя дабаўкі багатыя на вітаміны $B_1$, $B_2$, РР, мікраэлементамі натрыю, калію, кальцыю, фосфару і жалеза. Усе яны надзейна абараняюць арганізм чалавека ад радыяцыі, валодаючы радыепратэктарнымі ўласцівасцямі.**

*БІЗНЕС-ДАВЕДНІК*

### "УСЯ БЕЛАРУСЬ"

**Настольнай кнігай стане для кожнага дзелавога чалавека бізнес-даведнік "Уся Беларусь". Ён павінен выйсці ўжо сёлета восенню з дапамогай фінскага выдавецтва "Турун Санамат". Уключаючы ў сябе разнастайную інфармацыю аб прадпрыемствах, арганізацыях, кампаніях, фірмах усіх відаў уласнасці, якія дзейнічаюць на тэрыторыі рэспублікі, ён будзе неабходным дапаможнікам для кожнага, хто займаецца бізнесам, дазволіць лёгка зарыентавацца, хто ёсць хто на беларускім рынку.**

**Плануецца, што бізнес-даведнік "Уся Беларусь" выйдзе тыражом 50 тысяч экземпляраў і будзе распаўсюджвацца не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах СНД і Еўропы.**

*НА ПАСЯДЖЭННІ ТБМ*

### ЯК ВЫКАНАЦЬ ЗАКОН

11 сакавіка прайшло пасяджэнне рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Народны паэт Беларусі дэпутат Ніл Гілевіч адзначыў на ім, што сёння на Беларусі значна змянілася грамадска-палітычная сітуацыя. Звязана гэта з тым, што беларуская мова абвешчана дзяржаўнай пасля доўгіх і цяжкіх дэбатаў па адпаведных артыкулах Канстытуцыі.

На пасяджэнні адзначалася, што высілкі грамадскасці ў галіне адукацыі, культуры дасягнулі пэўных поспехаў. Намеснік старшыні ТБМ Яўген Цумараў паведаміў, што таварыства амаль за 5 гадоў свайго існавання выдала 16 кніг. Акрамя газеты "Наша слова", пачалі выходзіць газеты "Сумежжа" Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ, "Рагнеда" Салігорскай рады ТБМ.

Сёння асноўная задача грамадскасці -- дамагчыся выканання Закона аб мовах і 17 раздзела Канстытуцыі. Аднак, па словах Я.Цумарава, пытанне аб ходзе выканання гэтага Закона ў Вярхоўным Савеце адкладваецца ўжо дзесяты месяц.

У ТБМ ёсць праблемы з недахопам беларускіх кніг у школах. Аляксандр Гэчат прывёў наступныя даныя. Школьныя бібліятэкі ўкамплектаваны беларускай літаратурай толькі на 12 працэнтаў. Праз 20 гадоў будуць укамплектаваны на 50 працэнтаў.

Абмяркоўвалася на пасяджэнні пытанне супрацоўніцтва таварыства з палітычнымі партыямі і рухамі. Большасць членаў рады выказаліся за далучэнне да акцый розных партый. Галоўнае, гэта дапамагала прапагандаваць беларускую культуру.

**Алена СПАСЮК.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У БЕЛАРУСІ агулам налічваецца да 2,5 мільёна пенсіянераў. Сярэдні памер выплачваемых пенсій па ўзросту -- 88 тысяч 342 рублі. Прыкладна 800 тысяч чалавек атрымлівае пенсію, якая не забяспечвае мінімальныя патрэбнасці і нармальнае існаванне.

КАБ ПАБУДАВАЦЬ кватэру, сярэднюю двухпакаёвую, трэба ўкласці ў яе 60--65 мільёнаў рублёў. Рублі тэарэтычна можна ўзяць у Ашчадным банку пад 140 працэнтаў гадавых. Каб вярнуць крэдыт, у першы год карыстання ім пазычальніку прыйдзецца выплачваць банку штомесяц па 6 мільёнаў рублёў. Гэта пры сярэдняй зарплаце па Беларусі 165 тысяч рублёў.

ПАСЛЯ таго, як урад усцешыў свой народ абвесткай пра павышэнне да 60 тысяч рублёў мінімальнай заработнай платы, долар на Беларусі "ашалеў". 7, 8, 9, 10, 11 тысяч рублёў за 1 долар... І канца няма. Прагноз -- да 20 тысяч. Кампетэнтныя людзі бачаць галоўную прычыну такога ўпадку беларускага рубля ў непамерным крэдытаванні прамысловасці, якая амаль што не працуе.

ПАРТЫЯ аматараў піва заклікала рацыянальна выдаткаваць тыя 100 мільярдаў рублёў, што выдзелены ўрадам на правядзенне святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі. ПАП прапануе гэтую лічбу скараціць у 10 разоў. Астатняе раздаць у выглядзе дапамогі ветэранам вайны і інвалідам.

ГАЛАНДСКІЯ эколагі былі разгублены, пакаштаваўшы мінскую пітную ваду. Яны заявілі, што ў вадзе, якой жыхары сталіцы карыстаюцца штодня, ёсць мутагенныя ўтварэнні. Нашы навукоўцы ўстанавілі, што мінская водаправодная вада ўтрымлівае невядомыя і нявывучаныя вірусы, якія выбарча могуць паражаць сасуды кары галаўнога мозга, сардэчна-сасудзістую, імунную сістэму.

ЗА АПОШНІЯ 15 гадоў у Віцебскую вобласць вярнуліся з-за межаў дзяржавы 36 тысяч этнічных беларусаў. Гэтая лічба -- самая вялікая ў параўнанні з іншымі абласцямі Беларусі: больш паловы тых, хто перасяліўся на Бацькаўшчыну з Расіі.

НА БЕЛАРУСЬ прыйшла вясна. Пачалася сяўба яравых збожжавых культур. Сёлета першымі кінулі зерне аўса ў глебу сяляне калгаса "Парахонскі", што ў Пінскім раёне. У полі тры дзесяткі трактарных агрэгатаў, якія рыхтуюць глебу, барануюць раллю, вывозяць угнаенні.

УСЕБЕЛАРУСКІ жаночы фонд Ефрасінні Полацкай выступіў з ініцыятывай адзначыць 5 чэрвеня як Дзень Святой Ефрасінні Полацкай. Дзень павінен прайсці пад знакам яднання народа, без нацыянальных, палітычных і канфесійных рознагалоссяў.

## Аляксандр САСНОЎ:

# "ФІГАВЫ ЛІСТОК ДЭМАКРАТЫІ ЗНІК"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Што тычыцца не "гучных" народных выступленняў, то яны, натуральна, бяруцца ў разлік значна менш. Але ж не забывайцеся, цяперашняя абстаноўка адметная тым, што на гарызонце замаячылі чарговыя выбары... Да іх трэба ўжо рыхтавацца, і рыхтавацца спакваля. Вось у гэтым сэнсе большасць усё-такі вымушана лічыцца з думкай выбаршчыкаў.

-- *Мяркуючы па сацыялагічных апытаннях, людзей, гатовых выйсці на вуліцы з пратэстам, нешта патрабаваць, -- лічаныя працэнты. І практыка гэта пацвярджае.*

-- Справа напэўна не ў тым, што мала людзей, гатовых ісці на плошчу мітынгаваць. Бяда ў іншым: усё дарэмна. Ну, выйшлі, паламантавалі. Але ж сёння грошы могуць з'явіцца толькі з-пад друкарскага станка. Добра, надрукуюць, колькі трэба, раздадуць, а назаўтра цэны з'ядуць усё. Таму дарэмна і выходзіць, і шумець, і лаяць гэты Вярхоўны Савет, які, дарэчы, самі і выбралі.

-- *Ці не здаецца вам, што ў цэлым наспела палітычная абстаноўка і ў Беларусі, і ў Расіі, і ў іншых краінах СНД для "палявення" ўлады?*

-- Палітычная абстаноўка ў рэспубліцы, крайне "апрацаванай" ідэалагічна, у рэспубліцы з цяжкім эканамічным становішчам заўсёды тоіць у сабе магчымасць узмацнення левых сіл, і таму тое, што адбываецца, зусім натуральна. Але сапраўды перамагчы можна толькі тады, калі адбудуцца станоўчыя зрухі ў эканоміцы.

-- *Перамагчы можна, напэўна, і ўзурпіраваўшы ўладу?*

-- Можна і так. Але ці надоўга? Ужо не той узровень эканамічнага развіцця, як раней, калі "бяры больш, кідай далей". Зараз трэба працаваць галавой. А калі працуе галавой чалавек галодны, заклапочаны тым, на што купіць сваім дзецям заўтра ежу, ён працуе вельмі дрэнна, таму раней ці пазней, але нешта мяняць прыйдзецца. Тыя часы, калі за кошт нафтадолараў можна было фінансаваць неэфектыўную эканоміку, скончыліся. Тым больш, што ў Беларусі нафтадолараў наогул няма і ніколі не было. Сёння нават няма чым плаціць за энерганосьбіты.

Зараз вось чарговы раз усіх "накармілі" абяцаннем аб'яднаць грашовыя сістэмы, што, я мяркую, таксама не адбудзецца. Я крытычна ставіўся да гэтай ідэі з самага пачатку і на сесіі гаварыў, што ўсё гэта падман, чарговая "лапша" для насельніцтва. Трэба сваю грашовую адзінку ўмацоўваць, каб грошы працавалі, як грошы. Пакуль жа яшчэ "аб'яднанне" насельніцтвам падтрымліваецца. Але ў рэшце рэшт адказваць уладам прыйдзецца, у тым ліку і галасамі на выбарах.

-- *Аляксандр Віктаравіч, часам, калі на ўсё гэта глядзіш збоку, узнікае сумненне: ці ведае хоць хто-небудзь, што трэба рабіць, каб выблытацца з таго становішча, у якім мы ўсе апынуліся?*

-- Чаму ж не? Проста многія думаюць, што вось прыйдзе нехта адзін самы разумны і адразу ўсё зробіць. Гэта якраз і немагчыма. Калі ўлада нават і трапіць да такога чалавека, людзям на першым часе можа зрабіцца яшчэ цяжэй. Але з'явіцца і шанц на выхад з сённяшняй эканамічнай пасткі. Зараз жа нічога не робіцца. У моцных суб'ектаў гаспадарання адбіраюць грошы, каб падтрымаць слабых, у выніку ўсе разам гінем. На мой жа погляд, неабходна падтрымліваць тых, хто здольны паспяхова працаваць ужо сёння, каб яны абнаўлялі свае асноўныя фонды, прадукцыю.

-- *Вы маеце на ўвазе дзяржаўныя прадпрыемствы?*

-- Не мае значэння -- якія. Няхай дзяржаўныя, калі яны ў стане ўмацавацца, застаючыся дзяржаўнымі. Галоўнае, каб людзям плацілі заработную плату, якую трэба атаварыць. Значыць, будуць развівацца спадарожныя вытворчасці: харчовая, тэкстыльная і г.д. І такім чынам выцягваецца ўвесь ланцуг. Тыя ж прадпрыемствы, чыя прадукцыя акажацца непатрэбнай, "памруць". І на гэта трэба ісці.

Сёння ў выканаўчай улады, у руках якой сканцэнтравана рэальная моц, няма палітычнай волі, яна ўвесь час спадзяецца на нейкія фантазіі, чагосьці чакае, замест таго каб праводзіць рэальныя, цяжкія, але рэформы. Так, урад нешта прадпрымае, але толькі тое, што абсалютна неабходна, каб уцалець самому.

-- *І вось у гэтай сітуацыі, калі невядома, адкуль чакаць паратунку, аб'яўляюцца прэзідэнцкія выбары, чуеш прозвішчы кандыдатаў у прэзідэнты самыя нечаканыя і неверагодныя. Ці не абернецца зноў усё гэта пустой справай, бо сёння цяжка назваць асобу, здольную кансалідаваць грамадскую свядомасць і намаганні?*

-- Мы зноў па звычцы шукаем чалавека на ўзроўні Сталіна, Рузвельта... Не абавязкова ўсё гэта. Дастаткова мець нармальных кваліфікаваных людзей, якія будуць здольныя ў патрэбны момант рухаць краіну ў патрэбным напрамку. Той жа шлях, па якім імкнецца ісці ўрад, -- гэта паўмеры, камуфляж. Што тычыцца выбараў у прэзідэнты, то, зыходзячы з канкрэтных умоў, я не бачу рэальных прэтэндэнтаў акрамя прэм'ера Кебіча. Хаця тэарэтычна сюды можна было б далучыць яшчэ, на мой погляд, Пазьняка і ў нейкай меры Шушкевіча. Але апошняму сёння мала вераць: ён ужо адзін раз не выкарыстаў даныя яму магчымасці. Што тычыцца астатніх, то ў іх шанцаў быць выбранымі вельмі і вельмі мала. Ну а калі ніхто не здолее прайсці першы тур, што цалкам магчыма, выконваць абавязкі прэзідэнта стане Мечыслаў Грыб. І без усялякіх выбараў.

Што ж тычыцца выбрання прэзідэнтам В. Кебіча, для мяне адназначна, гэта не выйсце. Хаця ён і паводзіць сябе такім чынам, што, маўляў, дайце мне ўсю ўладу, і я пакажу ў поўнай меры, на што здатны. Не веру я ў гэта.

Калі гаварыць пра Аляксандра Лукашэнку, той проста не ў стане падняць краіну. Наконт Шушкевіча. Мне здаецца, пры ім было б лепей, калі Станіслаў Станіслававіч зноў не пачне будаваць сабе помнік пры жыцці.

-- *Такім чынам, светлых перспектыў сёння, здаецца, не бачна...*

-- Чаму ж, перспектывы ёсць заўсёды. Рана ці позна, але грамадства павінна зрабіцца нармальным.

-- *Аляксандр Віктаравіч, а да каго адносіцеся вы: да "левых", "правых", "цэнтра"?*

-- Будзем так казаць, я крышку правей за "цэнтр". Ні ў якія партыі не ўваходжу, але спачуваю...

-- *Калі не сакрэт, каму?*

-- Тым, хто падтрымлівае ліберальны напрамак, напрыклад, АДПБ, у добрых кантактах з БНФ. На жаль, Народны фронт у нас у значнай ступені ўспрымаецца праз прызму "mass medium", і на яго ўжо навешалі столькі сабак... І нацыяналізм, і фашызм, і што хочаш. На сустрэчах з выбаршчыкамі можна пачуць у адрас фронта такія перлы: "вас чакаюць у Навінках, а вы прыехалі сюды" або "толькі дурны можа галасаваць за БНФ"... І не разумеюць тыя, хто так кажа, што не вельмі разумныя якраз яны самі, калі збіраюцца галасаваць за тых, хто іх рабаваў і будзе рабаваць далей.

-- *А як вы ацэньваеце той факт, што з парламенцкай трыбуны зноў загучалі абвінавачванні некаторых дзеячаў і сродкаў масавай інфармацыі ў нацыяналізме, экстрэмізме?*

-- Гэта палітычная барацьба з апанентамі, з іншадумствам. Паглядзіце, той нашумелы артыкул Пазьняка абвергнуць ніхто не змог, таму што расійскі імперыялізм быў, ёсць і заўсёды будзе. А што тычыцца меркаванняў асобных расіян, то натуральна, што ім проста крыўдна за сваю дзяржаву.

-- *Але ж, мне здаецца, што больш за расіян стараюцца свае, беларусы.*

-- Практычна ва ўсіх дзяржавах існуюць своеасаблівая "пятая калона" і мясцовыя калабаранты. Яны былі заўсёды і паўсюль. А ў нас, дзе беларускасць зніштажалася на працягу многіх гадоў, тым больш. Але яна, беларускасць, застаецца і рана ці позна выйдзе наверх. Калі сёння яе задушаць, настане заўтра, паслязаўтра... І аналагічныя прыклады з сусветнай супольнасці гэта пацвярджаюць. Проста нацыянальныя адносіны павінны выспець. І трэба не забывацца яшчэ пра адно: вырашэнне нацыянальнага пытання напрамую звязана з дзяржаўнасцю. Што тычыцца "беларускага нацыяналізму", гэта ўсё чыстай вады палітыка.

-- *Аляксандр Віктаравіч, у вас на стале ляжаць руска-беларускія слоўнікі. Гэта што значыць?*

-- Гэта значыць, што я паходжу з рускамоўнага горада Гомеля, ніколі раней не вывучаў беларускую мову, а зараз пішу на ёй. З гутарковай мовай больш складана -- патрэбна практыка, якой, на жаль, пакуль не хапае.

-- *Дарэчы, а ў якой сферы вы бачыце сябе пасля заканчэння тэрміну вашых дэпутацкіх паўнамоцтваў?*

-- Вельмі складанае пытанне. Па закону я маю права вярнуцца на сваё апошняе месца працы, але там, на кафедры, працуе добры чалавек і няхай сабе працуе. Што тычыцца выкладчыцкай дзейнасці, тут, мяркую, у значнай ступені яна будзе залежаць ад таго, хто прыйдзе да ўлады. Але спадзяюся, што не прападу. У рэшце рэшт я не забыў і свае былыя рабочыя спецыяльнасці: шафёра, трактарыста, муляра, бетоншчыка, зваршчыка.

-- *Дзякую за гутарку, і спадзяёмся на новую сустрэчу з вамі ўсё ж такі ў ролі палітыка.*

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# АБ ЗАГАДЦЫ ДУШЫ, або ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА ВАКОЛ "НЕВЯДОМАГА ДОМА"

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Вось і пагаворым далей аб гэтай "белай пляме", чырвоных лістках календара, аб памяці і бяспамяцтве, праве беларусаў на сваю гістарычную спадчыну, а таксама паблукаем па шыкоўных калідорах нашых улад.

У Мінску на вуліцы Валадарскага, 9, стаіць дом, на якім увесь 1918 год вісела шыльда "Народны Сакратарыят Беларусі". Менавіта ў гэтым доме і была абвешчана БНР (гл. артыкул "Невядомы дом", "ГР" N 18, 1993). Год таму напярэдадні 75-х угодкаў грамадскасцю былі зроблены захады, каб атрымаць дазвол павесіць на ім мемарыяльную дошку. (Спачатку ставілася пытанне аб ушанаванні некалькіх мясцін, звязаных з падзеяй, хутка, аднак, зразумеўшы, што гэта ніколі не здзейсніцца, пакінулі просьбу аб адкрыцці адной дошкі на гэтым будынку). Амаль што за месяц да свята аргкамітэт даслаў лісты ў гарвыканком (спадарам А. Герасіменку і І. Чарняўскаму), у Саўмін (спадару В. Кебічу) і Вярхоўны Савет (спадарам С. Шушкевічу і Н. Гілевічу). Адразу адзначу, што месяц -- гэта не той тэрмін, за які нашы ўлады здольны вырашыць пытанне, асабліва, калі яно лічыцца "спрэчным". Мінуў год, а дошкі на тым будынку так і няма. Вядомы беларускі скульптар Алесь Шатэрнік (не за дзяржаўныя сродкі) своечасова зрабіў макет і адліў дошку з металу. Яна пакуль знаходзіцца ў Палацы мастацтва, дзе экспанавалася на выставе "Жыве Беларусь!" Чаму так атрымалася? Гэта рытарычнае пытанне ставяць і нашы суайчыннікі з замежжа, і тыя, хто стаіць за справу аднаўлення справядлівасці ў дачыненні да гісторыі тут, у Беларусі. Задала яго і я па тэлефоне намесніку старшыні гарвыканкома спадару Сасноўскаму. Размова была вельмі кароткая. Было патлумачана, што гэта не ўваходзіць у кампетэнцыю гарвыканкома: каб павесіць дошку, павінна быць адпаведная пастанова Саўміна, а напрыканцы высокі чыноўнік дадаў, што сёння нас павінны клапаціць справы больш значныя.

Калі пачынала гэту "нязначную справу двух цвікоў" (здаецца, толькі іх не хапала, каб прымацаваць дошку), я і не здагадвалася, што выльецца яна ў сапраўдны журналісцкі дослед. Пасля маруднага блукання па калідорах улад перада мной больш за трыццаць (і гэта далёка не ўсё) копій лістоў перапіскі, пачынаючы ад ініцыятараў і тых іншых, уцягнутых у гэтую справу ўстаноў: Савета Міністраў, Вярхоўнага Савета, ягоных Камісій па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, па дзяржаўнаму будаўніцтву, Аддзела па пытаннях заканадаўства і правапарадку, Міністэрства культуры, Акадэміі навук Беларусі.

У Саўміне сустракаюць вельмі ветліва. Спадар Барысаў, вядучы спецыяліст сацыяльна-культурнага комплексу Упраўлення спраў пры Савеце Міністраў пазнаёміў з паперамі і патлумачыў механізм прасоўвання справы. Найперш, аказваецца, трэба ўлічыць, што Савет Міністраў Беларусі -- орган выканаўчы. А таму без пэўных падстаў узяць на сябе адказнасць за прыняцце такога рашэння ён не можа, тым больш, што дзень 25 сакавіка не ўваходзіць у пералік святочных дзён Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, патрэбна пастанова заканадаўчага органа -- Вярхоўнага Савета -- аб унясенні гэтай даты ў пералік святаў. Менавіта таму накіроўваюцца лісты міністру культуры Вайтовічу з прапановай правесці неабходныя кансультацыі з гарвыканкомам, Акадэміяй навук, а таксама ліст да Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча з просьбай "выказаць свае адносіны да гэтай даты ў гісторыі рэспублікі".

Мяркую, што адказы тлумачыць не трэба, яны гавораць самі за сябе.

**Віцэ-прэзідэнт АН Беларусі акадэмік Р. Гарэцкі —**
**намесніку Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. Дзямчуку**

*"17.03.1993 03/103-254*

Па даручэнню Прэзідыума АН Беларусі Інстытутам гісторыі разгледжаны прапановы Арганізацыйнага камітэта па святкаванню 75-й гадавіны ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. На думку інстытута, **абвяшчэнне БНР сапраўды з'яўляецца важнай вехай у гісторыі беларускага нацыянальнага руху і беларускай дзяржаўнасці, і таму гэты факт павінен знайсці адпаведнае адлюстраванне.** Падзеі, якім мяркуецца прысвяціць мемарыяльныя дошкі, на самай справе мелі месца.

Тым не менш існуе пільная патрэба больш грунтоўнага, усебаковага і дэталёвага вывучэння гэтага пытання. У прыватнасці, **патрабуюць удакладнення пытанні, звязаныя з колькасцю мемарыяльных дошак, зместам іх тэкстаў і правапісам".**

**Нам. старшыні выканкома А. Сасноўскі —**
**міністру культуры Рэспублікі Беларусь Я. Вайтовічу**
*"16.03.93. 3-343*

...Паведамляем, што ўдзел дзяржаўных структур у дадзеных мерапрыемствах можа адбыцца толькі пасля надання гэтай даце статуса дзяржаўнага свята".

Абагульніўшы гэтыя два лісты, тагачасны міністр культуры Я. Вайтовіч накіроўвае свой адказ (17.03.93) у Савет Міністраў з высновай: "...З улікам спрэчных акалічнасцей, якія існуюць па ўнесенай прапанове, лічым мэтазгодным падтрымаць думку Мінскага гарвыканкама". (Цікава, якія "спрэчныя акалічнасці" меў на ўвазе спадар Я. Вайтовіч? У лісце спадара Р. Гарэцкага яны, здаецца, тычацца толькі колькасці дошак).

Тут і скончылася, як кажуць, першая частка. Але мэтазгодным здаецца нагадаць і яшчэ адзін факт -- намаганні некаторых Камісій Вярхоўнага Савета аб уключэнні даты ў пералік святаў Беларусі.

**Сп. Ніл Гілевіч — сп. Станіславу Шушкевічу**
*"25.02.93.*

На маю думку, трэба рашэнне Прэзідыума -- адзначыць сёлета 75-ю гадавіну БНР належным чынам і ў рэспубліканскім маштабе, а ў будучыні правесці гэту дату -- 25 сакавіка праз Вярхоўны Савет як адно з важнейшых святаў Рэспублікі Беларусь. Пара аднаўляць справядлівасць у дачыненні да нашай гісторыі.

На лісце рэзалюцыя С. Шушкевіча "на Прэзідыум" ад 26.02.93. Былі складзены два варыянты праекта Пастановы і заключны праект у выглядзе Указа (згодна з заўвагай Аддзела па пытаннях заканадаўства і правапарадку), дзе ў пункце 3 гаворыцца: "Звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з прапановай уключыць дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка ў лік

(Заканчэнне на 5-й стар.).

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ



# Антон ЛУЦКЕВІЧ: ФІЛАСОФІЯ І ЭСТЭТЫКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

У артыкуле "Страшэнная байка" ("Наша ніва", 1911, 28 крас.) ён выкрывае антысеміцкія нагаворы, што прывялі да сумна вядомай "справы Юшчынскага", у якой цэлы народ абвінавачваўся ў чалавечым ахвярапрынашэнні. А. Луцкевіч даследуе гістарычныя карэнні гэтага міфа і прыводзіць маловядомы ў нашай гістарыяграфіі прэцэдэнт: у 1564 годзе пасля ўважлівага судовага разбору аналагічнай справы вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст выдаў указ, паводле якога яўрэі як народ на вечныя часы абвяшчаліся апраўданымі ад абвінавачванняў у крывавых злачынствах абрадавага характару.

"Наша ніва" і яе сапраўдныя кіраўнікі ўлічвалі шматнацыянальны характар краю, дзе здаўна поруч з беларусамі жылі расейцы, палякі, літвіны, яўрэі, урэшце, іншыя нацыянальныя меншасці, імкнуліся да гарманізацыі іх эканамічных і культурных інтарэсаў. На думку А. Луцкевіча, аб'яднанне ўсіх народаў магчыма на аснове дэмакратыі і агульнага сацыяльна-эканамічнага прагрэсу: "Няхай кожны, -- пісаў ён, -- працуе дзеля сваёй нацыянальнай культуры, няхай любіць усёй душою сваё роднае, няхай бароніць сваіх братоў, сваю мову ад здзеку і гібення. Але няхай памятае, што доля краю залежыць перш-наперш ад долі беднаты гаротнай, няхай памятае, што пакуль селянін цёмен і бедзен, датуль ніякі поступ у нашай старонцы не можа развівацца: ён не знойдзе для сябе моцнага фундаменту..." ("Наша ніва", 1914, 25 крас.).

У гэтых словах ёсць ключ да разумення сутнасці беларускага сацыялізму, у прыватнасці, сацыял-культурнай стратэгіі і палітычнай тактыкі БСГ, пазней беларускіх сацыял-дэмакратаў і эсэраў. Зразумела, тут не абышлося без уплыву еўрапейскіх тэорый сацыяльнага прагрэсу і "вандроўных ідэй" сацыялістычнай афарбоўкі, якія пранікалі ў Расію і Польшчу праз літаратуру, друк і універсітэты. Бо канец XIX--пачатак XX стагоддзяў -- гэта час усеагульнага захаплення рознымі плынямі сацыялізму, яго прапаганды на масавым узроўні. Пра гэта нярэдка сведчыў А. Луцкевіч сваімі артыкуламі. "Кожны знае, -- пісаў ён у 1912 годзе, -- што ўсе станы вядуць заўсягды між сабой эканамічную вайну: селянін і рабочы дабіваюцца вялікшай платы за сваю работу, карацейшага рабочага дня; фабрыкант і памешчык бачаць сваю карысць у тым, каб плату ўрэзаць, а лік гадзін працы павялічыць". Годам раней А. Луцкевіч сказаў: "Вядомая рэч, кожны памешчык -- ці паляк, ці рускі, усё роўна -- мае інтарэсы зусім іншыя, чым інтарэсы мужыцкія. І паны розных нацый з гэтае прычыны скарэй згаворацца і пагадзяцца між сабой, чым з сялянамі". А годам пазней у артыкуле "Адвечная пропасць" ("Наша ніва", 1914, 17 ліп.) ён сказаў: "Не можа быць у нас нацыянальнага адраджэння, пакуль уся нацыя -- і сяляне-хлебаробы, і рабочыя не здолеюць палажыць сваёй часткі ў агульнанародную скарбонку. І беларускі рух не можа абмяжоўвацца адно толькі пытаннямі аб нацыянальных правах, аб правах роднай мовы, роднай культуры: з імі неразрыўна злучаюцца справа сялянская і справа работніцкая".

Такім чынам, А. Луцкевіч, яго калегі па беларускаму руху зыходзілі з наяўных сацыяльна-эканамічных рэаліяў свайго часу: асноўны зямельны, фабрычны і гандлёва-банкаўскі капітал у Беларусі аказаўся ў руках абыякавых альбо нават варожых гэтаму руху сацыяльных слаёў, нярэдка пад кантролем урадавых структур, якія наогул адмаўлялі нацыянальную і культурную самастойнасць беларусаў. Пра тое "накладванне" класавых супярэчнасцяў на беларускі нацыянальна-вызваленчы рух ён пісаў у "нашаніўскіх" артыкулах "Пуцяводныя ідэі", "Адвечная пропасць", "Дзве работы" (1914), робячы выснову, што ў такіх варунках гэты рух непазбежна набывае сацыяльна-дэмакратычны кірунак. Але беларускія сацыялісты былі скарэй прыхільнікамі эвалюцыі, чым рэвалюцыі, яны не абсалютызавалі барацьбу класаў, больш таго, улічвалі наяўнасць нацыянальнай і грамадскай салідарнасці і адноснай гармоніі.

У артыкуле "Край і народ" (1912) А. Луцкевіч, гаворачы аб супярэчнасцях паміж рознымі класамі і саслоўямі, адзначыў: "І ўсё ж такі для ўсіх іх карысна, калі агульнае эканамічнае жыццё будзе шпарка развівацца, а не стаяць на месцы, калі ўвесь край будзе багацець". У рэшце рэшт, ён заўсёды спадзяваўся на духоўную моц культуры, а не на сілу кулака. Беларускі сацыялізм грунтаваўся на веры ў людскую салідарнасць, набываў аблічча гуманістычнага ідэалу: "Супольная грамадская праца дзеля супольнай карысці, -- пісаў А. Луцкевіч у артыкуле "На новы год" (1913), -- вось школа, каторая навучыць народ, як стварыць сабе лепшае жыццё, як вызваліцца ад бяды і збудаваць моцны эканамічны фундамент (...) Па гэтай дарозе павінныісці мы, беларусы (...) Мы верым -- гэтую веру разам з намі мае ўвесь свет, -- што сусветнае жыццё год за годам прыбліжаецца да той мэты, дзе канец усім мукам, крыўдам і здзеку чалавека над чалавекам".

Тут сацыялізм наблізіўся да хрысціянства, ад якога, уласна кажучы, ён пачынаў свой радавод, спадзяваючыся вырашыць хрысціянскія ідэалы толькі чалавечымі намаганнямі і сродкамі. Атэізм сацыялістаў гуманістычнага кірунку, іх асветніцкі погляд на чыста функцыянальнае прызначэнне царквы звужалі іх прагнастычнае поле зроку, а часам вярталі на пазіцыі утапізму. Затое прынцыповы эвалюцыянізм, непрыманне гвалтоўных рэвалюцый, урэшце, акцэнт на культурным, духоўным прагрэсе грамадства збліжалі іх з хрысціянскімі дэмакратамі.

Пачалася сусветная вайна, летам 1915 года спынілася выданне "Нашай нівы". Для яе духоўных айцоў настаў час практычнага ажыццяўлення беларускай нацыянальнай ідэі, якая цэлае дзесяцігоддзе выпрацоўвалася на старонках гэтай газеты і яе літаратурных выданняў. Яе традыцыі ў ваенных умовах развіваў віленскі штотыднёвік "Гоман" (1916--1918), заснаваны В. Ластоўскім пры падтрымцы братоў Луцкевічаў. З гэтага часу А. Луцкевіч засяродзіўся на практычных аспектах беларускіх ідэалаў, хоць часам выступаў з палемічнымі артыкуламі ("Не запужаюць!", "Фальшывыя прыяцелі", "Да дзяржаўнай еднасці"). Зрэдку выступаў ён у менскай незалежніцкай газеце "Беларусь" (1919--1920). Пра яго шматгранную палітычную і дыпламатычную дзейнасць цікава распавядаецца ў нарысе А. Сідарэвіча "Антон Луцкевіч", на які мы ўжо спасылаліся. З кастрычніка 1918 да лютага 1920 года А. Луцкевіч быў прэм'ер-міністрам і міністрам замежных спраў урада БНР. Пераканаўшыся, што Польшча не збіраецца прызнаць беларускую дзяржаўнасць, а дзяржавы Антанты не схільныя прызнаць суверэннасць беларусаў, А. Луцкевіч пайшоў у адстаўку, каб пачаць новы, заходнебеларускі этап барацьбы за ідэалы "Нашай нівы". Тады ж, у 1920 годзе, ён разам з сваімі віленскімі калегамі паспрабаваў адрадзіць "Нашу ніву" (выйшла 6 нумароў). Там ён надрукаваў шэраг артыкулаў, у тым ліку "Палітычныя разважанні", дзе вызначыў стратэгію барацьбы за беларускую ідэю ў новых умовах. "Мы разумеем, -- пісаў ён, -- што Беларуская рэспубліка -- ці то Народная, Дэмакратычная, ці Савецкая, -- павінна быць беларускай па культуры, мове і духу, што, вядома, не выключае свабоднага развіцця культуры і мовы другіх нацыянальнасцяў Беларусі".

У штотыднёвіку "Гоман" А. Луцкевіч друкаваў цыкл сваіх літаратуразнаўчых нарысаў "Нашыя песняры". З гэтага часу эстэтыка і літаратурная крытыка займае важнае месца ў яго творчасці.

Грамадскае служэнне Антона Луцкевіча пачыналася з палітыкі і творчасці арганізацыйна-культурніцкай. Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ) і "Наша ніва" (у іх стварэнні яму належала важная роля) былі, па сутнасці, першай удалай спробай рэалізацыі беларускай ідэі ў сферы практычнай на шляху духоўна-творчай эвалюцыі беларускага грамадства. Натуральна, што ў часы "Нашай нівы" яму проста не хапала часу для літаратурнай крытыкі і філасофскай рэфлексіі, да якой ён быў схільны па характару свайго таленту.

Першы "эстэтычны выбар" А.Луцкевіч зрабіў вясной 1909 года, калі ўзнікла нязгода ў рэдакцыі "Нашай нівы" адносна першых вершаў Максіма Багдановіча. Нагадаю гэты выпадак, апісаны В.Ластоўскім у запісах "Мае ўспаміны аб М.Багдановічу" ("Крывіч", 1926, N 1. С. 6-11). Вясной 1909 года, успамінае Ластоўскі, паэт прыслаў у "Нашу ніву" сшытак сваіх 8-9 вершаў. Ядвігін Ш. ахрысціў гэты сшытачак "дэкадэншчынай". Яго ацэнку падзяляла спачатку "вярхоўная палата" рэдакцыі, да якой належалі А.Уласаў, браты І. і А.Луцкевічы, далучаліся, калі прыязджалі, Альгерд Бульба і Язэп Манькоўскі (Янка Окліч). Ядвігін Ш., апанент Багдановіча, залічваў сябе да "ніжняй палаты" ў таварыстве Янкі Купалы, В.Ластоўскага, С.Палуяна, Язэпа Драздовіча, якія не падзялялі яго памылковых ацэнак. За публікацыю вершаў Багдановіча выказаліся Купала і Ластоўскі. Але "дэкадэнцкі" сшытак вярнуўся з "верхняй палаты" з рэзалюцыяй А.Уласава: "У архіў". Толькі пад перакладам Багдановіча "Двух песняў" Н.Светагора быў надпіс А.Луцкевіча: "Можна друкаваць пад псеўдонімам". У карэктуры Ядвігін Ш. падпісаў гэты пераклад верша малавядомага расійскага паэта, псіхіятра Ю.Канібіха (1872-1939), псеўданімам Максім Крыніца.

М.Багдановіч адразу апратэставаў гэтае самавольства. А ў траўні таго ж 1909 года прыслаў новыя вершы. "Але вершы, -- успамінае з іроніяй Ластоўскі, -- былі зноў "дэкадэнцкія" і дзеля гэтага трапілі ў тую ж папку, дзе быў папярэдні сшыточак з надпісам: "У архіў". Там яны праляжалі да канца жніўня, калі іх выцягнуў на свет С.Палуян, стаў бараніць спярша перад Ядвігіным, а пасля перад "верхняй" палатай, з радоў якой за друкаванне некаторых вершаў першы выказаўся Чыж, а пазней А.Луцкевіч (...) Пасля надрукавання "Край мой радзімы" (маецца на ўвазе верш "Краю мой родны! Як выкляты Богам..." -- **У.К.**) і вершаў з цыклу "Вадзянік" у рэдакцыйным складзе, акрамя Ядвігіна, які ўпарта казаў: "А ўсё ж гэта вершы не для народа", усе аднагалосна выражалі прызнанне пісьменніцкага таленту М.Багдановіча".

Так, у рэшце рэшт, з блаславлення А.Луцкевіча выйшлі ў свет ледзь не спісаныя ў архіў цыклы вершаў М.Багдановіча "Лясун" ("Прывольная цёмная пушча...", "Хрэсьбіны Лесуна", "Пугач") і "Вадзянік" ("Асенняй ночай", "Вадзянік", "Над возерам"), з якіх пачынаўся першы раздзел яго "Вянка" пад назваю "У зачараваным царстве". Гэта было адкрыццё не толькі ў беларускай паэзіі: М.Багдановіч стварыў паэтычны аналаг музыкальным санатна-цыклічным формам, дзе ёсць свае экспазіцыі, распрацоўкі, варыяцыі, рэпрызы і фіналы. Багдановічавыя санаты лесу, возера, змяінага цара аналізуюцца ў маёй кніжцы "Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка Максіма Багдановіча" (1991).

Каб зразумець значэнне "паэтычнага прарыву" М.Багдановіча ў нашай літаратуры, неабходна ўявіць літаратурна-эстэтычны кантэкст у Расійскай імперыі канца XIX -- пачатку XX стагоддзяў. У прагрэсіўным друку панавала народніцкая крытыка, якая пачынала свой радавод ад славутага афарызма М.Някрасава: "Паэтам можаш ты не быць, а грамадзянінам быць абавязаны". А таксама ад славутай дысертацыі М.Чарнышэўскага "Эстэтычныя адносіны мастацтва да рэчаіснасці", паводле якой прырода, жыццё, грамадскія праблемы заўсёды "вышэйшыя" за мастацтва, мэта якога адлюстроўваць рэальнасць і служыць "падручнікам жыцця". Радыкальна-ліберальная і народна-дэмакратычная крытыка патрабавала ад літаратуры выкрываць заганы грамадскага жыцця, садзейнічаць аслабленню тагачаснага сацыяльна-палітычнага ладу. У сваю чаргу, кансерватыўная і рэакцыйная, "ахоўніцкая" крытыка і публіцыстыка дамагалася маральна-палітычнай стабілізацыі царскай Расіі, мацавала афіцыёзную ідэалогію самадзяржаўя, праваслаўя і "народнасці". А тыя, хто сведчыў пра духоўную аўтаномнасць мастацкай творчасці, рызыкавалі папасці пад крытычны абстрэл з "левага" і "правага" франтоў.

Расійскі сталічны і правінцыйны друк у пачатку нашага стагоддзя яшчэ поўніўся нападкамі на адэптаў "чыстага" мастацтва, прыхільнікаў "мастацтва дзеля мастацтва" і іншых "мадэрністаў", якіх ахрысцілі "дэкадэнтамі", гэта значыць, носьбітамі "заняпаду", схільнымі да нігілізму, асацыяльнасці і эстэтызацыі нябыту. У "дэкадэнтах" хадзілі вядомыя сёння класікі А.Блок, В.Брусаў, А.Белы, К.Бальмант, Л.Андрэеў і інш. Вось тады і "нашаніўскае" народніцтва не пазбегла гэтай эстэтычнай і сацыялагічнай міфалогіі. Пад народнасцю мастацтва разумелася толькі непасрэднае, рэалістычна-праўдападобнае адлюстраванне жыцця, пазбаўленае складанай асацыятыўнасці, сімволікі, філасофскай і рэлігійнай медытацыі. Лічылася, напрыклад, што "Наша ніва" -- народная, сялянская трыбуна, на якой, маўляў, не месца інтэлігенцкай вытанчанасці. Менавіта гэтымі аргументамі карысталіся Ядвігін Ш., А.Паўловіч і менш вядомыя літаратары ў сваёй апазіцыі да распачатай М.Багдановічам новай мастацкай плыні, у полі зроку якой паэзія бачылася як самавыяўленне народнай душы і творча-духоўнае пераўтварэнне жыцця.

Пачынальнікам эстэтычнай крытыкі ў беларускай літаратуры стаў М.Багдановіч. А ў "Нашай ніве" яе манатоннасць прарвалася летам 1913 года літаратурнай дыскусіяй, справакаванай (у добрым сэнсе гэтага слова) палемічным артыкулам Ю.Верашчакі (В.Ластоўскі) "Сплачвайце доўг". Абцяжараная сацыялагічнымі догмамі, нашая літаратурна-гістарычная навука доўга, занудліва шукала ў гэтай дыскусіі ідэалагічную і класавую барацьбу, у якой адэптам буржуазнага эстэтызму абвяшчаўся Ластоўскі, абаронцам жа рэвалюцыйнага рэалізму выступаў Янка Купала, які пад псеўданімам "Адзін з Парнаснікаў" адказаў Ю.Верашчаку вострапалемічным артыкулам "Чаму плача песня наша". Сёння відавочна, што дыскусія праграмавалася рэдакцыяй "Нашай нівы" і "праграмістам" мог быць А.Луцкевіч. Дарэчы, сама гэтая дыскусія спазнілася, бо песня беларуская ўжо даўно не толькі плакала, але смяялася і трыумфавала, раскрыла духоўную веліч беларуса-чалавека -- "цара прыроды", гэта значыць, якраз паводле праграмы таго ж Ластоўскага.

**Уладзімір КОНАН.**

**Працяг. Пачатак у № 10 — 11.**

## У ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"



# ВЕРНЫ СЯБАР ПАЗНАЕЦЦА Ў БЯДЗЕ

Амаль што восем гадоў мінула з таго трагічнага выбуху на Чарнобыльскай АЭС, але ягоныя наступствы мы будзем адчуваць на сабе яшчэ доўгія і доўгія гады. У час разадзіночання, дзяльбы і разладу, калі заняпад у эканоміцы перакрэсліў усе межы ўяўнага, не бачыцца магчымасці пераадолець вынікі аварыі сваімі ўласнымі намаганнямі. Кажуць, гора аб'ядноўвае. Было прыемна ўсвядоміць, як шмат у нас сяброў ва ўсім свеце, якія паспяшаліся на дапамогу нам і нашым дзецям у бядзе. Першымі забілі ў звон тыя, хто некалі жыў на гэтай зямлі, хто лепш ведае патрэбы і разумее складанасць абставін, у якіх мы жывём. Нашы суайчыннікі ў краінах свайго пражывання стваралі дабрачынныя арганізацыі, збіралі ахвяраванні, ладзілі кантакты з рознымі дабрачыннымі дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі. З самага пачатку "Голас Радзімы" сачыў за іх ахвярнай працай, шмат пісаў, выказваў падзяку.

На пачатку сакавіка ў таварыства "Радзіма" прыйшоў гуманітарны груз ад грамадскай асацыяцыі "Гумбальт-парк" і сястрынства Свята-Васкрасенскай Рускай Праваслаўнай царквы, што ў Чыкага (ЗША). Каардынатар гэтай дабрачыннай праграмы -- Джун Мека. Першы груз на 16 тысяч амерыканскіх долараў яна даслала яшчэ ў жніўні 1991 года. Мінулым летам, калі Джун прыехала прыняць удзел у Першым з'ездзе беларусаў свету, яна прывезла два чэкі на 5 тысяч долараў (адзін асабіста ад яе). Грошы былі перададзены ў Беларускі дзіцячы фонд з умовай, што будуць выкарыстаны на патрэбу дзіцячага анкалагічнага аддзялення ў Бараўлянах. Тады адбылося і асабістае знаёмства са шпіталем, вызначаны першачарговыя патрэбы, прапанавана супрацоўніцтва. Вярнуўшыся ў Амерыку, Джун Мека зноў узялася за вялікую працу па збору ахвяраванняў. І вось першая іх частка на 30 тысяч долараў з агульнай сумы 90 тысяч дастаўлена ў Мінск. Гэта вельмі неабходныя для штодзённага карыстання прыборы для ўнутрывеннага пералівання крыві: іголкі-"бабачкі", дзіцячыя мікракропельніцы, унутрывенныя канюлі. Адразу па прыбыцці ў таварыстве "Радзіма" адбылася перадача грузу загадчыку дзіцячага аддзялення НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Р.С.Ісмаілу-задэ. У дарозе ўжо і другая частка грузу -- кардыяманітор і дэфібрылятар для дзіцячай рэанімацыі. "Гэта вельмі неабходныя для нас рэчы і добры падарунак для аддзялення, якое ў хуткім часе будзе адзначаць пяцігоддзе свайго існавання", -- сказаў спадар Ісмаіл-задэ. Ён таксама падкрэсліў, што такое непасрэднае размеркаванне дапамогі па папярэдніх заяўках -- найбольш эфектыўны і перспектыўны шлях супрацоўніцтва.

Дабрачыннасць на Беларусі -- справа складаная. Шмат было недарэчнасцей, страт, а ў тым, што гублялі мы сяброў і супрацоўнікаў, вінаваты часцей за ўсё былі самі. Тут можна прыгадаць нядобрасумленнае размеркаванне, разбазарванне і перапродаж гуманітарнай дапамогі, непрыстойныя ўчынкі некаторых нашых арганізатараў адпачынку дзяцей за мяжой, нельга не ўлічваць і тыя штучныя бюракратычныя перашкоды ад пастановы Савета Міністраў Беларусі аб растаможванні грузу, якія выліліся ў шматпакутнае вандраванне па кабінетах і інстанцыях. З намі засталіся менавіта тыя, хто меў магчымасць пераканацца, што іх лекі, абсталяванне або іншыя рэчы трапляюць туды, дзе патрэба ў іх найвастрэйшая, а людзі, з якімі працуюць, добрасумленныя і адданыя справе. Праз перашкоды, памылкі, адбор надзейных партнёраў ствараюцца новыя ўмовы для супрацоўніцтва, якія, магчыма, зробяць дапамогу больш якаснай і эфектыўнай. Гэта вельмі важна. Сёння стан здароўя людзей, асабліва дзяцей, значна пагоршыўся. Па колькасці захворванняў мы набліжаемся да таго піку, які і прагназаваўся на гэты час пасля аварыі на ЧАЭС. Нацыя хварэе, хварэе ва ўсіх адносінах. Зрабіць усё, каб страты былі найменшымі, -- справа першачарговая, і мы ўдзячныя ўсім, каму баліць наша бяда, за ўдзел і дапамогу.

**Т. СЯРГЕЕВА.**

**НА ЗДЫМКУ: у час перадачы гуманітарнай дапамогі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ВОДГУЛЛЕ

# СУСТРЭЧА НА ЧУЖЫНЕ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ НА ЭМІГРАЦЫІ)

Прачытаўшы змястоўны матэрыял пра Забэйду-Суміцкага, я падумаў, што яшчэ адзін эпізод з яго жыцця можа хоць крыху дабавіць да яго біяграфіі каларыту, характарызуючага істоту гэтага незвычайнага чалавека.

Гэта была наша першая сустрэча. Залічаны савецкай уладай тагачаснай Беларусі да "неблагонадежных", Міхась Забэйда-Суміцкі жыў тады на эміграцыі ў Варшаве. Працаваў у Польскім радыё, выступаў з канцэртамі ў сталіцы, а таксама часта на гастролях у Лодзі, Кракаве, Любліне і іншых цэнтрах.

У гэтым жа часе (1936–1938) я, закончыўшы універсытэт у Познані, працаваў на Горным Шлёнску ў Катавіцах. Ужо тады я супрацоўнічаў з часопісам "Повстанец" і газетай "Польска Заходня". Аднойчы мае сяброўкі з Сасноўца (паўгадзіны язды ад Катавіц) запрасілі мяне на канцэрт варшаўскіх артыстаў з нагоды якогась расейскага свята. У гэтым 150-тысячным горадзе жыло нямала ўкраінцаў і расейцаў. Мы, беларусы, з многімі з іх сябравалі як з землякамі. Вядома -- на эміграцыі.

Па горадзе былі расклееныя афішы , з якіх пазіралі на нас прыгожыя маладыя твары салістаў -- расейскай спявачкі Каменскай і Міхася Забэйды-Суміцкага.

Добра асветленая зала была бітком набіта аматарамі музыкі і спеву. Сталічныя артысты ўсюды выклікаюць зацікаўленасць. Нарэшце прагучаў трэці званок, людзі ўселіся, паднялася заслона. Воплескі, уступнае слова канферансье, і пачаўся канцэрт. Як звычайна ў такіх выпадках, былі прамовы, дэкламацыі, музычныя нумары якогась ансамбля. Нарэшце на сцэну выйшла сціпла і густоўна апранутая маладая жанчына -- Каменская.

Таленавітая спявачка адразу зачаравала публіку сваім цёплым, аксамітным голасам. Яе лірычнае кантральта ў спалучэнні з натуральным глыбокім пачуццём заваражыла нас. З усіх твараў, як ветрам, змяло абыякавасць. Вочы гарэлі агнём захаплення, шчырага энтузіязму. Кожная песня суправаджалася незмаўкаючымі апладысментамі і крыкамі "брава!"... Яе голас і манера спеву нагадвалі несмяротную Плявіцкую і Паніну (з грампласцінак), незабыўных расейскіх спявачак мінулай эпохі.

Каменскую засыпалі букетамі і вязанкамі кветак. Але нас чакаў яшчэ адзін, сапраўды рэдкі сюрпрыз. Лёгкім крокам у беласнежнай кашулі і фраку на сцэну выйшаў малады, прыстойны артыст.

"Забэйда-Суміцкі", -- прашалясцела па залі. Перачакаўшы, пакуль змоўкнуць апладысменты, спявак звярнуўся да публікі з прапановай, што ён выканае некалькі рэгіянальных беларускіх песень на роднай мове.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# АБ ЗАГАДЦЫ ДУШЫ,
## або
# ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА ВАКОЛ "НЕВЯДОМАГА ДОМА"

(Заканчэнне. Працяг на 3-й стар.).

святочных (нерабочых) дзён Беларусі". Матэрыялы былі аддадзены на візіраванне (на іх стаіць тры візы), а потым спісаны ў справу 10.03.93. Чаму? Сёння ніхто ўжо дакладна не памятае або не хоча памятаць. Не той ужо час. Адзін нюанс: у маленькай цыдулцы (прымацаванай да справы) сакратаркі старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўству і правапарадку пазначана, што матэрыял спісаны "как не поддержанный комиссией".

Напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету ЗБС "Бацькаўшчына" зноў дасылае ліст на імя сп. С. Шушкевіча з просьбай "паспрыяць у прыняцці станоўчага рашэння па ўстанаўленню мемарыяльнай дошкі". На ім візы "для прапаноў" спадарам Н. Гілевічу і У. Леўчыку. І калі сп. Гілевіч падтрымаў прапанову: "Пагаджаюся з кіраўніцтвам "Бацькаўшчыны", што гэта будзе дарэчы зрабіць цяпер -- у рамках праграмы Першага з'езда беларусаў свету", адказ старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па дзяржаўнаму будаўніцтву быў наступны: "...1. З улікам спрэчных думак, якія існуюць па гэтаму пытанню, Камісія лічыць мэтазгодным падтрымаць прапанову Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

2. Камісія таксама адзначае, што згодна пункту І Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб парадку ўстаноўкі мемарыяльных дошак і іншых памятных знакаў" ад 16 верасня 1981 года № 305 устаноўка мемарыяльных дошак і іншых памятных знакаў пры ўвекавечванні імёнаў выдатных дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, герояў вайны і працы, дзеячаў навукі, культуры і мастацтва праводзіцца на аснове рашэнняў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь".

Вось і вярнуліся мы туды, адкуль пачалі зачараванае кола. Здаецца, "два цвікі" абышліся б дзяржаве значна танней, чым уся гэтая цягамотная перапіска, падрыхтоўка і абмеркаванне шматлікіх папер. Дзяржаўныя структуры зноў ухіляюцца ад абавязку спрыяць замацаванню ў свядомасці грамадства вызначальных падзей нашай гісторыі. Відавочнае ігнараванне думкі грамадскіх аб'яднанняў, народных дэпутатаў, дзеячаў культуры і літаратуры, проста беларусаў, а Зварот удзельнікаў Першага з'езда да Вярхоўнага Савета "Аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі..." і наогул нідзе не згадваецца. Затое да справы падмацавана копія артыкула А. Сцепаненкі, "Ностальгия по кайзеру". Як не выкінеш слова з песні, так і не выкрасліш падзеі з гісторыі дзяржавы. Хто ведае, магчыма, калі б не была абвешчана БНР, можа ніколі не была б утворана і БССР, а мы так і засталіся б Паўночна-Заходняй ускраінай Расіі, прывід якой зноў маячыць над краінай.

Як доўга наша душа яшчэ будзе блукаць чужымі сцежкамі?

Ну а тыя, хто стаіць за сваю суверэнную дзяржаву, група народных дэпутатаў і дзеячаў культуры, 1 сакавіка накіравалі чаргвоы ліст у гарвыканком. Які чакаць адказ? Дарэчы, большасць, з кім давялося размаўляць, выказваюцца па данай справе станоўча, нават падтрымліваюць яе, а вось узяць на сябе адказнасць прыняць рашэнне пакуль што няма каму. Такое ўражанне, што пачуццё адказнасці наогул адсутнічае ў грамадстве. Няма адказнасці ў народа перад гісторыяй, ва ўрадзе -- перад народам, у бацькоў -- перад дзецьмі і ў дзяцей -- перад бацькамі.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**




**"Выказваем пажаданне і шчырае спадзяванне, што гэтая справа -- відавочная дзеля карэннага дзяржаўнага інтарэса Беларусі, гістарычнае памяці, нацыянальнае годнасці беларускага народа -- будзе неадкладна і станоўча вырашана яшчэ да закрыцця з'езда.**

**Прынята аднагалосна 8.07.93 г., г.Мінск."**

*(Са Звароту ўдзельнікаў Першага з'езда беларусаў свету да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка").*

# ЦІ МУДРАГЕЛІСТЫ ЦМОК?



Слонімскі беларускі драматычны тэатр шмат працуе не толькі для дарослых гледачоў, але і для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту. Перад сабою калектыў тэатра заўсёды ставіць тры задачы: паказаць, як у звычайным, будзённым жыцці можна свабодна і лёгка валодаць роднаю моваю; быць верным сябрам і дарадчыкам дзіцячых садкоў і школ у практычнай дапамозе па адраджэнню беларускай культуры; захапіць дзяцей мастацтвам, навучыць іх разумець прыгожае.

Мне здаецца, гэтыя тры задачы калектыў паспяхова выконвае. За час свайго існавання прафесійны тэатр у Слоніме пабываў амаль ва ўсіх кутках Беларусі. Юныя гледачы паглядзелі самыя арыгінальныя і папулярныя пастаноўкі: "Два клёны" Я.Шварца, "Папялушка" Т.Габе, "Крыштальная сняжынка" В.Небальсіна, "Зайка-зазнайка" С.Міхалкова, "Прынцэса і салдат" У.Ягоўдзіка, "Антосік і гармонік" Ю.Фрыдмана і В.Шульжыка, "Чарадзейныя суніцы" А.Якімовіча, "Дзень нараджэння ката Леапольда" А.Хайта.

З пералічаных спектакляў бачна, што яны даволі разнастайныя па тэматыцы. Дзеці нашы чуйныя да дабрыні і зла, справядлівасці і несправядлівасці. Яны ад спектакляў атрымліваюць шчырае задавальненне, гутараць моваю ўбачаных герояў, абмяркоўваюць у садках і школах, у сем'ях і паміж сабой тое, што бачылі. Яны добра запамінаюць акцёраў, спектаклі і заўсёды чакаюць новых работ.

У другой палове студзеня ў тэатры зноў адбылася прэм'ера для дзяцей. "Мудрагелісты Цмок" — афішы з такой назвай клікалі ў тэатр сваіх паклоннікаў. Напісаў п'есу і ажыццявіў яе пастаноўку артыст тэатра Сяргей Бачкоў. Я не буду спыняцца і апісваць усе казачныя прыгоды, якія адбываюцца ў спектаклі, адно хачу адзначыць, што ігра акцёраў Уладзіміра Навуміка, Анжэлы Прэдка, Іны Ёрш, Васіля Сяўца, Юрыя Грасевіча, Валерыя Бандарука спадабалася дзецям. Прыгожыя касцюмы, афармленне сцэны і музыка надаюць спектаклю незвычайнасць і чарадзейнасць.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Мудрагелісты Цмок".**

**Фота М. СУПРУНА.**

НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

# "БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-94"

Месцам паломніцтва для многіх беларусаў з розных куткоў Беласточчыны стаў у нядзелю 6 сакавіка Палац спорту тэкстыльшчыкаў у Беластоку. Менавіта тут адбыўся заключны канцэрт фестывалю "Беларуская песня-94", які праводзіўся Беларускім грамадска-культурным таварыствам (БГКТ) у Польшчы. На ім выступілі пераможцы юбілейнага, 25-га агляду калектываў мастацкай самадзейнасці беларускіх асяродкаў гэтага краю. Пазнаёміцца з іх майстэрствам прыехалі прадстаўнікі польскіх улад, сярод якіх былі віцэ-маршалак сейма Рэспублікі Польшча Аляксандр Малахоўскі, віцэ-прэм'ер і міністр юстыцыі Уладзімір Цімашэвіч, прэзідэнт горада Беластока Лех Руткоўскі, намеснік ваяводы Аляксандр Гаеўскі і іншыя. Запрошаных гасцей з Беларусі рэпрэзентавалі: міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, міністр адукацыі Віктар Гайсёнак, міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько, старшыня рады ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма" Уладзімір Навіцкі, начальнік упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкома Аляксей Саўчык.

У юбілейным аглядзе беларускіх калектываў мастацкай самадзейнасці Беласточчыны, які адбываўся напярэдадні ў гэтай жа зале, прынялі ўдзел больш 70 выканаўцаў. А іх майстэрства ацэньвала аўтарытэтнае журы, якое ўзначальваў народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік народнага хору імя Г.Цітовіча Міхась Дрынеўскі. І не выпадкова, што права выступіць у заключным канцэрце заваявалі, бадай, ці не найлепшыя.

Адкрываючы гэты канцэрт, старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі сказаў: "Дваццаць пяць аглядаў беларускай песні ў Польшчы — гэта тысячы канцэртаў, многія тысячы гледачоў. А самае галоўнае, што нашы шчырыя беларускія песні і нашу родную мову мы можам перадаць маладому пакаленню. Беларуская песня жыла, жыве і будзе вечна жыць сярод беларускай меншасці ў Польшчы".

Трэба адзначыць, што канцэрт пацвердзіў гэтыя словы. Каля чатырох гадзін працягваўся ён, але ніводзін з прысутных (больш чым дзве тысячы гледачоў) не пакінуў залу да апошняй яго хвіліны.

А пачаўся канцэрт выступленнем хору з Гарадка пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы, які выканаў песню "40 гадоў ужо праспявалі". Хор Копы існуе ўжо 40 гадоў і прымаў удзел ва ўсіх аглядах і конкурсах беларускай песні, што праводзіліся на Беласточчыне. Для нас цікава было пачуць ад мясцовых беларусаў, што першыя агляды беларускай песні праходзілі ў нязменным памяшканні БГКТ і ў якасці гасцей на іх прысутнічалі толькі вайскоўцы з мясцовага гарнізона Савецкай Арміі.

Вельмі пранікнёна выканаў песню пра маці адзін з прызёраў сярод выканаўцаў сучаснай беларускай песні Юрый Налівайка, які, дарэчы, два гады назад па запрашэнню таварыства "Радзіма" праходзіў стажыроўку ў Мінску на класу вакала. Усім гледачам спадабалася таленавітая маладая спявачка Эльжбета Мацкевіч, якая выканала песню "Азёры дабрыні". Яшчэ адным прыемным сюрпрызам для нас было выступленне маладзёжнага хору "Каласкі" з Беластока пад кіраўніцтвам Алі Дубец. Справа ў тым, што сёлета на пачатку лютага ўдзельнікі гэтага хору знаходзіліся ў Мінску, дзе для іх таварыства "Радзіма" арганізавала 10-дзённыя курсы ўдасканалення харавога майстэрства. І вось на юбілейным аглядзе ў Беластоку "Каласкі" занялі першае месца сярод харавых калектываў, а пасля выступлення на канцэрце ім быў уручаны прыз Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Цікавым было і выступленне хору з Гайнаўкі пад кіраўніцтвам Ганны Стрыха, які атрымаў у якасці прыза японскі тэлевізар ад віцэ-прэм'ера Рэспублікі Польшча У.Цімашэвіча.

Выклікала захапленне высокае выканаўчае майстэрства Алі Дубек, якая стала пераможцай сярод выканаўцаў сучаснай беларускай песні. А калі мы ўбачылі на сцэне Алю разам з яе маці Любай Гаўрылюк і сынам Давідам, то міжволі падумалася аб пераемнасці пакаленняў. Выдатны дуэт Багуславы Карчэўскай і Аліны Ваўранюк таксама спадабаўся прысутным. Прыемныя ўражанні засталіся ад выступленняў квартэтаў "Каліна" з Дашоў і "АРПА" з Беластока. Апошні заняў першае месца ў сваёй групе сярод выканаўцаў апрацаванага фальклору.

Імклівым і жыццярадасным было выступленне вакальна-інструментальнага ансамбля "Маланка" з Бельска Падляшскага пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука, аднаго з энтузіястаў беларускай песні на Беласточчыне.

Паспяхова выступіў у заключным канцэрце і вакальна-інструментальны ансамбль Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Бліскавіца".

Фестываль "Беларуская песня-94" закончыўся, а ўражанні ад яго даюць падставы меркаваць, што песня беларуская будзе заўжды гучаць на беластоцкай зямлі.

**Уладзімір НАВІЦКІ, намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма".**

# ВЕРУ Ў ПРАЎДЗІВАЕ МАСТАЦТВА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Пра тое, што яшчэ зрабіў для беларускага мастацтва Павел Масленікаў, трошкі пазней, а пакуль пра ягоную вучобу, а гэта значыць пра Віцебск. Так, так. Ён вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. І добра памятае гэты горад сярэдзіны 30-х гадоў, які, на ягоную думку, быў на Беларусі тады сапраўдным мастацкім цэнтрам. Там жа, у Віцебску, былі ў Паўла Васільевіча сустрэчы з Ю.Пэнам, з І.Ахрэмчыкам.

— Віцебск бачыў Шагала, Пэна, фармалістаў. У Віцебску выкладаў Валянцін Волкаў. Калі я паступіў у вучылішча, падрыхтоўка будучых мастакоў там вялася на высокім узроўні. У першую чаргу, дзякуючы выкладчыкам.

Добра памятаю Ю.Пэна. Гэта ўжо быў стары чалавек. Ён шмат расказваў пра сваю вучобу ў Пецярбургу, даручаў нам перакладваць свае карціны, што ляжалі ў скрынях. Пэн быў вялікім майстрам з высокай адукацыяй. Ён мог бы ўзняцца яшчэ вышэй і падрыхтаваць шмат вучняў, калі б у нашай краіне тады было культурнае кіраўніцтва. Быў ён адзінокі чалавек. І жыццё скончыў страшна: Пэна забілі рабаўнікі, якія шукалі ў яго золата.

З вялікай цікавасцю я назіраў за працай Івана Ахрэмчыка, захапляўся тым, як ён пісаў. Часам Ахрэмчык браў мяне разам з сабой на эцюды, вучыў бачыць прыгожае. Нават і цяпер перад вачыма ягоныя працы: цячэ вада, дно прасвечваецца, а на вадзе цень. Быў мастак тады малады, прыгожы, энергічны, эмацыянальны. Праўда, здаецца, больш за ўсіх, але вынікамі не заўсёды быў задаволены. Не забуду ніколі, як аднойчы ён пісаў карціну. Здавалася, што атрымалася выдатна, а ён раптам пахадзіў ля яе і як дасць нажом у палатно, кінуў яго і пайшоў. Нешта не спадабалася яму ў гэтай працы. Такі патрабавальны быў да сябе чалавек.

Павел Масленікаў мае вялікія планы. Калі Бог дапаможа, гаворыць ён, праз 5 гадоў збіраецца зрабіць выставу. Будзе яна невялікая — работ 50—70. (На выставе, што прайшла ў Палацы мастацтва, экспанавалася 220 работ). І яшчэ ён хоча напісаць "Старонкі з творчай біяграфіі", дзе збіраецца расказаць пра беларускае сялянства 20—30-х гадоў (бацька мастака — селянін), пра перасяленне вясковых людзей на хутары, пра калектывізацыю.

— Гэта была другая пасля 1917 года рэвалюцыя, рэвалюцыя ў свядомасці, псіхалогіі, матэрыяльным існаванні, — гаворыць Павел Васільевіч. — Я добра памятаю голад пачатку 30-х. З Украіны ехалі на конях па Беларусі. Людзі пухлі, паміралі. Потым — вайна. Для мяне яна пачалася пад Масквой. Агонь. Узнятая зямля. Адна з вёсак, праз якую мы ішлі, цягнулася кіламетры два. І ад краю да краю ляжалі параненыя і забітыя. Па паўгода мы не здымалі кашулю. А скончылася вайна для мяне ў Іране. Іранцы выслалі вуліцы свайго гарадоў дыванамі, прымалі нас, як сваіх родных. Дзень Перамогі ўспамінаю з вялікай радасцю.

Пасля вайны мастак вярнуўся ў тэатр оперы і балета, дзе пачаў працаваць яшчэ ў 1938 годзе. Ён афарміў шмат спектакляў. Оперы Я.Цікоцкага "Міхась Падгорны", А.Рубінштэйна "Дэман", балет Б.Асаф'ева "Бахчысарайскі фантан" — толькі некаторыя з іх.

Пазней Павел Масленікаў шмат гадоў працаваў у тэатральна-мастацкім інстытуце. З 1960-га па 1964-ты год быў яго рэктарам. Там ён адкрыў факультэт дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, новыя кафедры. І гэта ў той час, калі на Беларусі па дэкаратыўна-прыкладному мастацтву не было ніводнага мастака з вышэйшай адукацыяй. Ён расказвае:

— Я вёў доўгую перапіску з ЦК, прасіў дазволу адкрыць факультэт, але так і не атрымаў. Аднак знайшоў жадаючых вучыцца на факультэце сярод студэнтаў вячэрняга аддзялення жывапісу. І ў рэшце рэшт адкрылі факультэт. Выкладчыкаў запрашалі з усяго СССР. Некаторыя прыехалі. Мабыць я быў тады трохі авантурыстам. Але ж нельга было сядзець склаўшы рукі. Мы зрабілі, дасталі, купілі ткацкія станкі, печы для плаўкі шкла. І ў выніку факультэт выпусціў першых дыпламаваных габеленшчыкаў, ткачоў, мастакоў тэатра. Сярод іх А.Салаўёў (галоўны мастак тэатра Я.Коласа ў Віцебску) і Б.Герлаван (галоўны мастак тэатра Я.Купалы ў Мінску). Яны мае вучні.

Аднак у ЦК мая ініцыятыва не спадабалася — афіцыйнага дазволу так і не было. Мяне знялі з пасады рэктара, я стаў загадчыкам кафедры. У хуткім часе закрылі аддзяленне мастацкай апрацоўкі металу. З 1972 года не рыхтуюць у інстытуце тэатральных мастакоў.

Павел Масленікаў усё сваё жыццё імкнуўся аддаваць іншым свой талент, свае веды. Яму было мала ўсведамляць сябе мастаком. Ён хацеў, каб іх, сапраўдных мастакоў, было болей — і ў тэатрах, і на шклозаводах. Але галоўнай яго працай застаецца жывапіс. Ягоныя карціны — у асноўным пейзажы — гэта адлюстраванне стану прыроды, яе велічы. Павел Масленікаў з самага пачатку сваёй творчасці пісаў як рэаліст. Я спытала, ці быў ён выбар свядомым.

— Ведаеце, я нарадзіўся ў вёсцы, жыў на хутары. Вакол лес, спяваюць жаваранкі. Зайцы бегаюць. Рака, рыба. Я глядзеў на воблакі і бачыў у іх цэлыя карціны. Бацька купіў мне балалайку. Я чытаў кнігі, слухаў музыку. І пачаў чуць яе ў сінечы неба, у аблоках, у шуме лесу. Мае юнацтва прыпала на час, калі яшчэ існавала адзінае жыццё прыроды і чалавека. Нечакана для сябе я пачаў заўважаць нешта іншае, акрамя прадметнасці, пачаў рабіць замалёўкі. Бацька набыў для мяне акварэлі. Мне не трэба было нічога шукаць. Мае натхненне ішло ад зямлі, ад прыроды. Я веру ў праўдзівае мастацтва.

Зліццё прыроды і чалавека — вось сапраўднае жыццё. Я вучуся ўсё сваё жыццё і веру, што прырода — першы мастак на зямлі. Яна — настаўнік. Мастаком можна быць да таго часу, пакуль вучышся. Перастаў вучыцца — панесла назад — фізічна распадаешся. Калі любіш прыроду і бачыш яе прыгажосць, гэтае пачуццё дае вялікую энергію. Яна трымае маё фізічнае існаванне.

**Алена СПАСЮК.**



**НА ЗДЫМКУ: П. МАСЛЕНІКАЎ. "Халодны май".**

# ПРАЕКТ СВАЁЙ ПАТРЫЯРХІІ

4 лістапада Я.Руцкі сустрэўся з альбоўскімі езуітамі і, нарэшце, 5 лістапада з прыкрымі пачуццямі на душы пакінуў Альбоў. Па дарозе ў Новагародак яго дагнала яшчэ адна сумная вестка: 14 лістапада памёр князь А. Заслаўскі -- памочнік мітрапаліта і шчыры прыхільнік вуніі. Гэта быў змрочны знак лёсу. Я. Руцкі выразна ўбачыў: задума аб'яднаць вуніятаў з праваслаўнымі і ўтварыць вялікакняскую патрыярхію -- канчаткова правалілася.

Мітрапаліт пакутліва перабіраў у памяці ўсе свае крокі, шукаў памылкі, але не знаходзіў іх. Няўдача, якой Я. Руцкі менш за ўсё чакаў, сталася прычынай яго глыбокай асабістай драмы. Пры кожным успаміне яна прыносіла яму нясцерпны боль і, трэба думаць, у многім абумовіла ягоныя паводзіны ў астатнія гады жыцця.



Былі, аднак, і аб'ектыўныя прычыны, што перашкодзілі хаўрусу вуніятаў з праваслаўнымі і асабліва наступнаму кроку пасля яго -- утварэнню патрыярхіі.

Найперш, буйнамаштабны праект Я. Руцкага мог быць рэалізаваны толькі ва ўмовах эканамічнага і палітычнага ўздыму дзяржавы. У 20-х гадах XVII стагоддзя наша краіна з прычыны няспынных войнаў з Маскоўшчынай і Швецыяй, наадварот, уступіла ў фазу глыбокага крызісу, што ў другой палове стагоддзя прывяло да страты амаль трэці насельніцтва, велізарных тэрыторыяў і заняпаду гаспадаркі. У такіх неспрыяльных умовах чакаць актыўнай пазіцыі ўрадоўцаў Вялікага Княства, а таксама шырокай падтрымкі шляхецкіх колаў было цалкам безнадзейнай справай.

Нельга не зважаць і на тое, што пры канцы 20-х гадоў пачалі выяўляцца адмоўныя бакі канфедэратыўнага паяднання Княства з Каронаю: арганізм ліцьвінскай дзяржавы тачыў чарвяк паланізацыі; манарх, імкнучыся да абсалютызавання сваёй улады на грунце польскасці, аб'ектыўна не быў зацікаўлены ва ўсебаковым умацаванні Княства, ідэя вялікакняскай патрыярхіі не выклікала ягоных сімпатыяў, бо гэта адразу б узняло прэстыж Вялікага Княства сярод краін Еўропы, чаго не хацелася ні манарху з яго прапольскай арыентацыяй, ні тым больш польскім магнатам, якія ўсе стагоддзі імкнуліся скарыць ліцьвіноў.

Я. Руцкі, магчыма, адчуваў, але не да канца ўсведамляў той факт, што ўтварэнне вялікакняскай патрыярхіі супярэчыць глыбінным інтарэсам не толькі Масквы, але і прызнаных цэнтраў Хрысціянства -- Канстанцінопаля і Рыма, якія выяўлялі сваё зацікаўленне ягоным праектам настолькі, наколькі гэта адпавядала іх зацікаўленням. Інтарэсы ліцьвінскай нацыі, натуральна, стаялі ў іх палітыцы на дзесятым месцы. Таму надзея Я. Руцкага на дапамогу і спрыянне з боку найвышэйшых іерархаў Хрысціянскага Свету была ад пачатку ілюзорнай. Больш за тое, ёсць падставы гаварыць пра супрацьдзеянне Канстанцінопаля, Масквы і Рыма рэалізацыі ідэяў беларускіх вуніятаў. Пазіцыя і ўчынкі польскага каталіцкага кліру і вялікакняскага праваслаўнага духавенства сведчаць, што за іх спінамі стаялі трэція сілы, досыць добра спрактыкаваныя ў гульнях такога памеру.

Урэшце, найадукаванейшы чалавек свайго часу, тонкі тактык і дыпламат, Я. Руцкі апынуўся па сутнасці ў ізаляцыі: аддаленыя гістарычныя перспектывы і велічнае значэнне яго праекта для кансалідацыі беларускага народа ўсвядомілі толькі лічаныя асобы.

Такім чынам, на мітрапалітавым шляху паўстала куды болей розных нечаканасцяў і падводных камянёў, чымся яму ўяўлялася напачатку. Жыццё і абставіны аказаліся мацнейшымі за яго; ён мусіў адступіць, прызнаць сваё паражэнне. Відаць, яго вялікасцю лёсам Я. Руцкаму было наканавана перажыць крушэнне сваёй, магчыма, найгалоўнейшай задумы жыцця. А можа, гэта была плата за непамерную самаўпэўненасць.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 9 —11.**

Памятаючы пра тое, што Кліо, апякунка гісторыі, не надта шануе ўмоўны лад, не станем разважаць пра магчымыя вынікі ўтварэння вялікакняскай патрыярхіі. Але існаванне яе праекта -- факт гісторыі, прычым досыць красамоўны. Ён сімвал заўсёднага імкнення нашага народа да духоўнай свабоды, пацверджанне нястомных інтэлектуальных пошукаў і духоўных парываў яго найлепшых сыноў, урэшце, знак вялікага, але, здаецца, так і не рэалізаванага дасюль патэнцыялу Хрыстовай Царквы на Беларусі.

Паяднанне не адбылося. Надыходзілі доўгія гады і дзесяцігоддзі ўзаемных абвінавачванняў, прэтэнзіяў і незадаволенасці. Паклаўшыся на Божую волю, Я. Руцкі працягваў кіраваць Вуніяцкай Царквою. Як і здагадваўся мітрапаліт, на Канвакацыйным Сойме 1632 года, скліканым па смерці вялікага князя Жыгімонта Вазы, праваслаўныя імкнуліся ўзяць рэванш, распачалі змаганне за свае правы. У Варшаву яны прывезлі тэрмінова надрукаваны твор "Сінопсіс" (Вільня, 1632), у якім змяшчаліся розныя прывілеі вялікіх князёў, канстытуцыі, універсалы, дакрэты, пастановы патрыярхаў і Царкоўных Габораў, нададзеныя Беларускай Праваслаўнай Царкве ад 946 да 1632 гадоў. З дапамогай кодэкса гэтых дакументаў праваслаўныя даказвалі гістарычнае права на сваіх мітрапалітаў. Яны, у прыватнасці, спасылаліся на Прывілей 1386 года Ягайлы, Прывілей 1501 года князя Аляксандра, а таксама Прывілеі 1511, 1514, 1550, 1557, 1567 і 1569 гадоў.

Змест распаўсюджанага на Сойме "Сінопсіса..." зрабіў вялікае ўражанне на дэпутатаў, урадоўцаў і новага кандыдата на вялікакняскі пасад Уладзіслава. Пад уплывам гэтай кнігі і палымяных выступаў праваслаўных дзеячаў была ўтвораная Соймавая камісія для падрыхтоўкі праекта новай канстытуцыі, якая б стварыла заканадаўчы падмурак дзейнасці Праваслаўнай Царквы ў Вялікім Княстве. У склад камісіі ўвайшлі віленскі ваявода Леў Сапега, гетман Станіслаў Канцэпольскі, епіскап Якуб Задзік і шэсць прадстаўнікоў шляхты. Гэтую камісію, як найбольш адказную, пажадаў узначаліць Уладзіслаў.

На працягу Канвакацыйнага і Элекцыйнага Соймаў 1632 года адбылося 5 бурных пасяджэнняў азначанай камісіі. Дыскусіі паміж вуніятамі і праваслаўнымі ледзьве не выліліся ў сапраўдную бойку. Мусіць, толькі прысутнасць урадоўцаў і Уладзіслава стрымала іх.

Мітрапаліт Я. Руцкі ўжо на першым пасяджэнні выступаў з вялікай прамовай, у якой пералічыў шматлікія парушэнні вялікакняскіх законаў з боку праваслаўных, злачынствы, учыненыя імі, а таксама крыўды і абразы, нанесеныя Вуніяцкай Царкве ды яе духоўным айцам. Ён, у прыватнасці, прыгадаў забойствы Кунцэвіча і Грэковіча, замах на жыццё І. Пацея, здзек казакаў з чатырох вуніяцкіх манахаў ды іншыя. Вядома, праваслаўныя ўсяляк апраўдваліся, а іх выступоўцы -- Л. Дрэвінскі і Я. Бабрыковіч у сваю чаргу падалі 23 абвінавачванні вуніятам.

Урэшце, праваслаўныя дамагаліся свайго. Пацверджанне сваіх старадаўніх правоў і прывілеяў яны паставілі як галоўную ўмову ўдзелу ў галасаванні за кандыдатуру Уладзіслава на вялікае княжанне. І прэтэндэнт мусіў зрабіць ім крок насустрач, тым болей, што патрабаванні праваслаўных сапраўды былі справядлівыя. 1 лістапада 1632 года Уладзіслаў замацаваў сваім подпісам і пячаткай "Артыкулы для супакаення праваслаўных" і загадаў неадкладна ўнесці іх у актавыя кнігі Варшаўскага магістрата.

"Артыкулы..." гарантавалі праваслаўным вольнае адпраўленне набажэнства, царкоўна-адміністрацыйную незалежнасць ад Вуніяцкай Царквы, дазвалялі будаваць новыя бажніцы, школы, друкарні і г.д. Паводле "Артыкулаў...", праваслаўныя атрымлівалі права абірацца ў магістрат, чаго яны доўгі час былі пазбаўленыя; за імі замацоўваліся манастыры і бажніцы, на якія вуніятам забаранялася прэтэндаваць. Абодвум бакам загадвалася "жыць у міры і спакоі, спыніць узаемныя пагрозы, не пісаць і не друкаваць кніг з узаемнымі абразамі..."

Я. Руцкі выступіў з пратэстам, накіраваў ліст Папу Рымскаму. Але не асабліва разлічваючы на дапамогу збоку, ён сам разгарнуў актыўную дзейнасць па абароне маёмасці Вуніяцкай Царквы, манастыроў і бажніцаў, на якія заявілі свае правы праваслаўныя. У 1633 годзе ён змагаецца за вяртанне Кіеўскай Сафіі, сілай захопленай П. Магілам і яго манахамі, палемізуе з магілеўскім, варшанскім і амсціслаўскім епіскапам С. Косавым, які заклікаў вернікаў Вялікага Княства Літоўскага не падпарадкоўвацца вуніяцкім пастырам. 14 сакавіка 1635 года Я. Руцкі ўсё ж дамогся ад Уладзіслава прывілея, паводле якога за вуніятамі на ўсе часы замацоўваліся шматлікія манастыры і бажніцы.

Да апошніх дзён мітрапаліт верыў, што здолее кардынальна змяніць сітуацыю на карысць Вуніяцкай Царквы. Урэшце, справа, якой ён прысвяціў жыццё, сапраўды перамагла: пасля перамяшчэння ў сярэдзіне XVII стагоддзя цэнтра Праваслаўя ў Кіеў Вуніяцкая Царква на доўгі час стала панавальнай на нашых землях.

**Іван САВЕРЧАНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: герб Я. РУЦКАГА.**

## ВЕЧАР ПАМЯЦІ Уладзіслава ГАЛУБКА



**Вечар памяці беларускага пісьменніка, рэжысёра, акцёра, мастака, народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка прайшоў у Цэнтральным Доме афіцэраў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.**

**Перад яго ўдзельнікамі выступілі вядомыя творчыя калектывы нашай рэспублікі, а таксама госці з Расіі і Украіны.**

**НА ЗДЫМКАХ: на сцэне -- ансамбль "Сябры"; выступае фальклорны ансамбль "Бяседа".**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**



# СУСТРЭЧА НА ЧУЖЫНЕ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ НА ЭМІГРАЦЫІ)

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

-- Просім, просім! -- загула зала. І палілася наша сумная народная песня "Ой, ляцелі гусі"... Публіка замерла. Бязмежная туга і смутак беспрасветнай вясковай долі плылі, плылі па залі, паланілі душы, неслі ў бязмежную далеч... У многіх мімавольна пацяклі слёзы. Цудоўны тэнар артыста, глыбіня пачуцця і невымоўнай тугі настолькі зачаравалі прысутных, што -- скончылася песня, а ў залі панавала мёртвая цішыня. Толькі праз мінуту ўзарвалася бура воплескаў і воклічаў, крыкаў "брава" і "біс". Доўга прыйшлося чакаць акампаніятару і спеваку, пакуль можна было прадоўжыць канцэрт.

Паясніўшы слухачам, што ўсе яго песні -- народныя, створаныя прыгоннымі беларускімі сялянамі, Забэйда-Суміцкі выканаў з асаблівым пачуццём і пад'ёмам "Малады дубочак", "Вярба" і яшчэ некалькі песень, заканчваючы на "біс" -- "Лявоніхай".

Канцэрт закончыўся бурнай і доўгай, незмаўкаючай авацыяй. Незлічоныя букеты не мясціліся ў абдыме маэстра.

-- Калі ж вы зноў нас адведаеце? -- спытаў я, прабіўшыся ў касцюмерную.

-- І тут ёсць беларусы? -- адказаў пытаннем на пытанне артыст.

-- Дзе ж нас ня бывае?.. -- са смуткам адказаў я.

-- Так... горкая доля паняволенага народу...

-- Прабачце, але ці магу я спытаць: чаму вы -- высокакваліфікаваны таленавіты спявак -- не пераязджаеце ў Менск?.. Думаю, што там вас прынялі б з вялікай радасцю.

Міхась хвіліну памаўчаў, а тады з выразным смуткам сказаў:

-- Я ўпэўнены, што народ мяне прыняў бы, як роднага. Я ж з крыві і касці яго -- неадрыўная частка гэтага народу. Але... там камандуюць не беларусы, а мураўёвы ды кагановічы, якія пагарджаюць беларускай культурай і гісторыяй, топчуць народную мову... І для начальства я там непажаданы госць.

Падышла машына, і мы развіталіся. Надоўга, аж да 1943 года, калі спаткаліся ў Менску. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

**Аляксей АНІШЧЫК.**
Вільня.

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**17 сакавіка, чацвер**

### "ГОМАН" КЛІКАЎ ДА ЗМАГАННЯ

У 1884 годзе ў Пецярбургу выйшла два нумары падпольнага гектаграфічнага часопіса "Гоман", органа беларускай фракцыі арганізацыі "Народная воля". На яго старонках з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый гаварылася пра існаванне беларускай нацыі і гучала патрабаванне яе федэратыўнай самастойнасці пасля знішчэння царызму.

"Мы -- беларусы і павінны змагацца за мясцовыя інтарэсы беларускага народа і федэратыўную аўтаномію краіны, -- чытаем у першым нумары "Гомана". -- Мы -- рэвалюцыянеры, таму што, падзяляючы праграму барацьбы "Народнай волі", лічым неабходным узяць удзел у гэтай барацьбе; мы -- сацыялісты, бо нашай галоўнай мэтай з'яўляецца эканамічнае паляпшэнне краіны на пачатках навуковага сацыялізму". Выдаўцы часопіса лічылі, што ў сваёй дзейнасці нельга абмяжоўвацца вывучэннем роднага краю і культурнай работаю на яго карысць, бо пры існуючым ладзе гэта не дасць ніякіх практычных вынікаў. Патрэбна палітычнае змаганне.

Выдаўцы "Гомана" -- група студэнтаў з Беларусі на чале з А.Марчанкам і Х.Ратнерам -- пісалі, што беларускі народ можа адчуваць недавер да сваіх сілаў, але адсутнасць у яго масах нацыянальнага руху -- яшчэ не сведчанне яго нібыта адвечнай дрымотнай пасіўнасці. Часопіс нагадваў пра барацьбу беларускіх царкоўных брацтваў з акаталічваннем, пра магутныя сялянскія бунты супраць прыгону і нацыянальна-вызваленчыя паўстанні за часамі Мікалая І і Аляксандра ІІ.

Заклікаючы народ да барацьбы за сацыяльныя і нацыянальныя ідэалы, гоманаўцы называлі "адным з гарачых заснавальнікаў" сваёй фракцыі Ігната Грынявіцкага, які 1 сакавіка 1881 года, выконваючы прысуд "Народнай волі", забіў імператара Аляксандра ІІ, перажыўшы яго ўсяго на некалькі гадзін.

Гісторыя засведчыла: любыя спробы змяніць свет да лепшага праз сілу -- асуджаныя на няўдачу, што аплачваецца нязмернымі чалавечымі пакутамі. Ігнат Грынявіцкі і яго паплечнікі-народавольцы былі ахвярамі аблуднага вучэння. Яны трагічна памыляліся, але яны вартыя нашай памяці. Памяці, якая перасцерагае.

**Уладзімір АРЛОЎ.**



**Лаўрэнцій Арэшка з Рэчыцы хутка адзначыць сваё 70-годдзе. Ён інвалід ІІ групы, але аптымізму і сіл у яго хапае. Ужо многа гадоў захапляецца ён лепкай з гліны. І сёння ў яго майстэрні многа работ. Як правіла, гэта ляпныя партрэты сяброў, а таксама вядомых на Гомельшчыне людзей. Творы Лаўрэнція Рыгоравіча экспанаваліся на абласных і раённых выставах, удастоены ўзнагарод. А яшчэ Лаўрэнцій Арэшка -- скрыпач. Ён паспявае трапіць на рэпетыцыю ў ансамбль "Верасень" Рэчыцкага таварыства інвалідаў і ў Палац культуры "Нафтавік", дзе ў народным хоры выконвае яшчэ і ўласныя частушкі.**

**НА ЗДЫМКУ: Лаўрэнцій АРЭШКА.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## "КАЛОСЬСЕ"... БЫЛО? ЁСЦЬ!

Як вядома, у 1935--1939 гадах у Вільні выходзіў часопіс пад такой назвай, на старонках якога друкаваліся самыя розныя аўтары з былой Заходняй Беларусі. Але, безумоўна, твар выдання вызначаў і ксёндз Адам Станкевіч. Першы нумар часопіса "Калосьсе" з'явіўся напрыканцы мінулага года ў Паставах. Таварыства Вольных літаратараў, якое стала яго заснавальнікам, у невялікім звароце "Ад рэдакцыі" гаворыць, што не імкнецца "ў чым-небудзь канкрэтна наследаваць старому "Калосьсю", але абяцае друкаваць творы "не паводле прынцыпу "моцная рэч -- слабая рэч"... Важней стварыць прастору для новых мастацкіх адкрыццяў, для "непануючых плыняў. І наш суб'ектывізм тут толькі на карысць".

Сярод аўтараў нумара С.Адамовіч, Ю.Пацюпа, А.Касцень, Ю.Гумянюк, С.Шыдлоўскі, А.Майсяёнак, А.Чэмер, А.Іверс і інш. Выданне фінансавана часткова калектывам пастаўскага завода "Беліт", часткова Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадой. Нумар надрукаваны на грамадскіх пачатках і выйшаў накладам 500 паасобнікаў.

## СПОРТ

### ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ, ЮБІЛЕЙНЫ

Першы турнір па вольнай барацьбе на прызы Аляксандра Мядзведзя прайшоў у 1970 годзе. Гэта было яшчэ тады, калі сам праслаўлены беларускі спартсмен выступаў амаль на ўсіх буйных спаборніцтвах. Праз два гады, у семдзесят другім, ён трэці раз запар стаў алімпійскім чэмпіёнам.

І вось, аддаючы павагу вялікаму спартсмену, Міжнародная федэрацыя барацьбы (ФІЛА) прыняла рашэнне зрабіць турніры традыцыйнымі, аднёсшы іх спачатку да катэгорыі "А" -- высокай, а цяпер і да самай высокай -- "Гран пры".

Ці не таму на сёлетніх юбілейных спаборніцтвах, што прайшлі ў мінскім Палацы спорту, мы ўбачылі сярод удзельнікаў нямала самых тытулаваных барцоў з ЗША і Турцыі, Германіі і Польшчы,.. з усіх краін СНД.

А вось зборнай Беларусі не пашанцавала. У трох камандах, якія прымалі ўдзел у сёлетнім турніры, было больш другіх нумароў.

З-за хваробы не выступалі Сяргей Смаль, Вугар Аруджаў, сын Аляксандра Мядзведзя Аляксей, яшчэ некалькі спартсменаў адчувалі сябе не зусім добра ўжо ў час спаборніцтваў. І таму спадзявацца на поспех (летась беларусы заваявалі на турніры аж но пяць вышэйшых узнагарод!) нашых спартсменаў не прыходзілася. Праўда, адно першае месца ўсё ж у нас: Аляксандр Саўко з Гродна ў фінале адолеў украінца Ігара Краўца. Цёпла ўспрымалі мінскія аматары спорту і перамогу Аравата Сабеева з Германіі, які раней жыў і выступаў у Беларусі.

Так ужо атрымалася, што пераможцамі турніру аказаліся спартсмены з іншых краін: украінцы, грузін, амерыканец... Што, вядома, прынесла вялікую радасць гасцям спаборніцтваў.

Прызы ўручаў, таксама па традыцыі, сам Аляксандр Мядзведзь. Уручаў і... атрымліваў, бо сёлета ў спаборніцтваў было нямала спонсараў. Яны далі грошы на арганізацыю турніру, выдзелілі падарункі, прызы, якія ўручалі і ўдзельнікам, і самому А. Мядзведзю. Напрыклад, у гонар юбілейных спаборніцтваў Аляксандр Васільевіч атрымаў у падарунак аўтамабіль "Пежо".

Турнір выклікаў вялікую цікавасць. Палац навят у дні папярэдніх сустрэч запаўняўся аматарамі спорту. А прадстаўнік ФІЛА Васіліус Пагоніс коратка адгукнуўся аб спаборніцтвах так: "Гэта было цудоўнае відовішча. Турнір у Мінску адносіцца да самых значных, якія былі ў маёй практыцы".

**НА ЗДЫМКУ: падарунак аўтамабіль "Пежо" -- прыемны сюрпрыз для Аляксандра МЯДЗВЕДЗЯ.**

**Фота Мікалая АХРАМЕНКІ.**



## КАРОТКІЯ ПАВЕДАМЛЕННІ

### КАЛІ МУЖЧЫНЫ РАЗЗЛУЮЦЦА, ТО...

... яны перамагаюць, выходзяць з самых безнадзейных сітуацый. Пройгрыш зборнай Беларусі па гандболу ў чэмпіянаце Еўропы камандзе Аўстрыі ў першым матчы з розніцай у адзінаццаць мячоў, на думку многіх, не даваў нашым спартсменам, здавалася б, ніякіх шансаў адыграцца ў паўторным. А гэта значыць -- бывай фінал, які пройдзе ў Партугаліі летам.

Але дома беларусы змаглі адыграцца. Ды яшчэ як! Лік у паўторнай гульні быў 28:15 на іх карысць. Ёсць фінал і вялікія шансы на ўдзел нашай каманды без папярэдніх гульняў трапіць і ў фінал чэмпіянату свету.

### НЕПРАДКАЗАЛЬНАЯ ПАРАМЫГІНА

Адразу некалькі важных і прыемных падзей адбылося ў жыцці сярэбранага прызёра апошніх Алімпійскіх гульняў Святланы Парамыгінай. Спачатку беларуская біятланістка пасля вяртання з Нарвегіі атрымала ў падарунак новы аўтамабіль "Рэно-кліо". Пасля выйшла замуж. І, адмовіўшыся ад мядовага месяца, адразу адправілася ў Канаду на чарговы этап розыгрышу Кубка свету.

Тут яна выдатна перамагае на дыстанцыях 7,5 і 15 кіламетраў. Цяпер наша спартсменка ўпэўнена лідзіруе ў розыгрышы Кубка свету.

### РАЗГУЛЯЛАСЯ САМАЛЮБСТВА?..

Шматразовы чэмпіён свету ў бегу па каньках Ігар Жалязоўскі ўжо не раз заяўляў, што пакідае вялікі спорт. Так было, напрыклад, пасля Ліліхамера. Але кожны раз перагледзе сваё рашэнне.

Вось і нядаўна наш земляк бліскуча выйграў забег на "тысячаметроўцы" ў Германіі на міжнародным турніры "Залатыя канькі". Гэта яго каронная дыстанцыя. Пройграць на Алімпіядзе -- другое месца -- падахвоціў Жалязоўскага. І самалюбства не дазволіла яму пайсці са спорту пераможаным.

### НЕ ГУСТА

Адкрыўся сезон беларускіх лёгкаатлеты. На чэмпіянаце свету ў закрытых памяшканнях у Парыжы наша спартсменка Наталля Духнева перамагла ў бегу на 800 метраў. Шкада, што гэты поспех стаў і адзіным для зборнай рэспублікі. Іншыя спартсмены выступілі значна горш , чым маглі б.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 384. Падпісана да друку 21. 3.1994 г.